● выдаецца са жніўня 1917 г.

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

● кошт 3000 рублёў

3 лістапада 1998 г. аўторак, № 215 (23566)



# ЗВЯЗДА



**Браслаўскі калгас "Прагрэс" рэалізуе сваю каўбасную прадукцыю. Чарга ў аўтобус ... за каўбасою.**

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.



## Постчарнобыльскія праблемы ў цэнтры ўвагі прэзідэнта ў рабочай паездцы па Магілёўшчыне

**Учора прэзідэнт Беларусі прыбыў у Магілёўскую вобласць. Аляксандр Лукашэнка наведаў Чэрыкаўскі раён, а ўвечары прысутнічаў на ўрачыстым адкрыцці VI міжнароднага фестывалю «Залаты шлягер. Магілёў-98».**

Чэрыкаўскі раён, які ўчора наведаў Аляксандр Лукашэнка, уваходзіць у лік шасці сельскіх раёнаў Магілёўскай вобласці, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. Больш таго, Чэрыкаўшчына таксама з'яўляецца адным з дванаццаці раёнаў рэспублікі, што ўвайшлі ў спіс найбольш эканамічна слабых.

Жыхарам Чэрыкава, якія сабраліся на цэнтральнай плошчы райцэнтра, каб сустрэцца з прэзідэнтам, Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што створана спецыяльная «праграма 12-ці», якая разлічана на два-тры гады і ў выніку якой ёсць магчымасць вырашыць самыя буйныя праблемы жыццядзейнасці у тым ліку і Чэрыкаўскага раёна. Прэзідэнт паабяцаў, што дзяржава дапаможа раёну адбудаваць усе неабходныя аб'екты, аднак гэта будуць невялікія «акуратныя» праекты, а не «махіны», утрыманне якіх патрабуе сёння велізарных сродкаў. У лік неабходнага, па меркаванню кіраўніка дзяржавы, абавязкова ўваходзіць новае жыллё ў сельскіх гаспадарках, пабудаванае па еўрапейскаму ўзору, што дапаможа прыцягнуць у раён неабходных спецыялістаў. Такія новыя домікі, а дакладней — іх будаўнічыя пляцоўкі, прэзідэнт агледзеў пасля сустрэчы з чэрыкаўчанамі ў пасёлку Верамейкі.

На сустрэчы з народам Аляксандр Лукашэнка закрануў актуальную для ўсіх праблему — заработныя платы і цэны. Ён імкнуўся растлумачыць людзям прычыны ўзлёту цэн і выказаў упэўненасць, што месяцы праз два, да новага года, сітуацыя стабілізуецца. Прэзідэнт паведаміў, што зараз створана агульнарэспубліканская камісія, якая вывучыць сістэму цэнаўтварэння і распрацуе меры для стрымання росту цэн. Акрамя гэтага ён даручыў ураду зрабіць разавыя грашовыя выплаты супрацоўнікам бюджэтных сфер, каб хоць крыху падтрымаць насельніцтва ў такіх цяжкіх эканамічных варунках.

— Я сустракаюся з людзьмі і спрабую адчуць, якая зараз сітуацыя, наколькі цяжкая, — сказаў у інтэрв'ю журналістам Аляксандр Лукашэнка. — Але правільна сёння мне сказаў адзін пенсіянер: «Аляксандр Рыгоравіч, хто «круціцца», працуе — той усё мае». А тыя, хто папівае гарэлачку, як у былыя часы, і мяркуе, што дзяржава забяспечыць яго і ягоных дзяцей, дык... Няма ў дзяржавы сёння такіх магчымасцяў, ды і не трэба іх, а трэба працаваць.

Разам з постчарнобыльскімі праблемамі прэзідэнт у гэтай паездцы цікавіўся і гаспадарчымі. Ён наведаў свінагадоўчы комплекс «Светлы» Чэрыкаўскага раёна. Гэты комплекс — буйнейшы ў вобласці, ён разлічаны на 54 тысячы галоў, хаця сёння працуе толькі напалову праектнай магутнасці. Спецыялісты паабяцалі кіраўніку дзяржавы, што ў будучым годзе «Светлы» выйдзе па вытворчасці свініны на ўзровень савецкіх часоў. Менавіта такая задача пастаўлена Аляксандрам Лукашэнкам перад жывёлаводамі ўсёй краіны. «Праз два гады мы павялічым прыкладна ў два разы вытворчасць мяса на такіх фабрыках, і гэта «выцягне» рэспубліку. У прынцыпе, мы сёння атрымліваем дастаткова мяса, каб пракарміць свой народ. Прыбаўка пойдзе ў абмен на энерганосьбіты ў Расію і іншыя краіны, якія будуць гатовы купляць у нас прадукты харчавання», — акрэсліў планы на перспектыву прэзідэнт.

У інтэрв'ю, якое даў Аляксандр Лукашэнка прадстаўнікам беларускіх і расійскіх СМІ ў Чэрыкаўскім раёне, закранался тэма далучэння Югаславіі да Саюза Беларусі і Расіі ў сувязі з удзелам дэлегацыі Югаславіі ў якасці наглядальнікаў у Парламенцкім Сходзе Саюза, які ўчора пачаў сваю работу.

— Траістага Саюза пакуль не будзе, таму што гэта аб'ектыўна нерэальна, — адказаў на пытанне кіраўнік Беларусі. — Тут патрэбна вельмі сур'ёзная прапрацоўка, трэба ведаць і жаданне югаслаўскага боку, бо яны прыглядаюцца і пакуль не гатовы сказаць, ці далучацца яны да Саюза Беларусі і Расіі. Што датычыцца самога дагавора, то ён адкрыты да далучэння не толькі для рэспублік былога Савецкага Саюза, але і для ўсіх жадаючых, так што з юрыдычнага пункту гледжання ёсць поўная магчымасць для далучэння Югаславіі да нашага Саюза. Далей — канкрэтная праца, я падтрымліваю гэту ідэю нават і без прапрацоўкі, бо ўзровень эканамічнага развіцця Югаславіі не ніжэй, чым у нас. Яны ў нас дармаедамі не будуць, наадварот, яны могуць здорава нам дадаць. У Югаславіі добрыя кліматычныя ўмовы і выгаднае стратэгічнае становішча, і гэта было б карысна для Саюза.

У гутарцы з журналістамі прэзідэнт таксама закранаў і праблемы палітычнага жыцця суседняй краіны. Вельмі ўзрушыла Аляксандра Лукашэнку выступленне Рыгора Яўлінскага наконт карупцыі. Кіраўнік Беларусі лічыць, што такімі дзеяннямі ствараецца база, каб блакіраваць дзейнасць і знішчыць урад Яўгена Прымакова, і робяць гэта тыя, хто гэтую ж карупцыю і ствараў. Але, на думку Аляксандра Лукашэнкі, кіраўнік урада Расіі заняў правільную пазіцыю: калі ёсць канкрэтныя факты карупцыі, пакладзі іх на стол. А па-другое, народ усё ж такі разбярэцца, хто і з якімі мэтамі выкарыстоўвае зараз папулярны імідж змагароў з карупцыяй.

Яшчэ адно пытанне датычылася абмежавання паўнамоцтваў расійскага прэзідэнта і магчымага прыняцця Барысам Ельцыным правілаў гульні, якія дыктуе Дума. Аляксандр Лукашэнка выказаў сваё меркаванне на гэты конт: «Катэгарычна не — ніякіх пераразмеркаванняў паўнамоцтваў і ніякіх «перакройванняў» Канстытуцыі. Як толькі яны гэта зробяць, мы іх можам павіншаваць з пачаткам яшчэ аднаго хаосу. Мы ў Беларусі гэта перажылі. Кожная галіна ўлады павінна займацца сваёй справай. Я катэгарычна супраць, каб пад сітуацыю, пад выпадак «кроіць» Асноўны закон. Потым у іншым месцы «бокам вылезе»...

У паездцы па Чэрыкаўскаму раёну прэзідэнта суправаджалі намеснік прэм'ер-міністра Генадзь Навіцкі, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь Мікалай Дамашкевіч, першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзімір Русакевіч і старшыня Магілёўскага аблвыканкама Аляксандр Кулічкоў.

**Ілона ІВАНОВА.**

*Чэрыкаўскі раён.*

*Спартыўная акрабатыка. Чэмпіянат свету-98*

## Акрабаты могуць стаць гімнастамі

Падчас мінулых выхадных беларуская сталіца развіталася з XVII чэмпіянатам свету па спартыўнай акрабатыцы, які, відаць, стане апошнім самастойным першынством на зыходзе 25-й гадавіны IFSA. Бо ў развітальнай прамове прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі спартыўнай акрабатыкі балгарын Стоіл Сатыраў заначыў, што з 1 студзеня 1999 года і FSA пераходзіць пад крыло Міжнароднай федэрацыі спартыўнай гімнастыкі (FIG). І ўсё гэта зроблена для таго, каб акрабаты ўліліся ў 2004 годзе ў алімпійскую сям'ю.

У выніку чатырохдзённай барацьбы беларуская зборная Беларусі заваявала шэсць медалёў — 4 бронзавыя і 2 сярэбраныя і заваявала 5-е агульнакаманднае месца, набраўшы 96 ачкоў. На два балы нашых атлетаў абышлі кітайцы. А тройка прызёраў выглядае так: Расія — 108, Украіна — 102, Вялікабрытанія — 100.

Сталічны Палац спорту ў апошні дзень турніру не мог прыняць усіх жадаючых. Канешне, не апошнюю ролю тут адыграла тое, што ўваход на спаборніцтва быў бясплатны.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 2 ЛІСТАПАДА 1998 г. (па стану на 15.00)**

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 79900 | 80000 | 48300 | 48360 | 4790 | 4990 | 222-0750 |
| Тэхнабанк | 79900 | 80000 | 47800 | 48300 | 4780 | 4980 | 283-15-00 |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 79700 | 80000 | 47760 | 48300 | 4930 | 4990 | 276-95-31 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 58300 | | 35361,19 | | 3680 | | Курс на 3.11.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 15,8200 | | 9,5838 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

*УСМІХНЁМСЯ!*




Малюнак Яўгена ЦАРКОВА.

Адзін мужык кажа другому.

— *Мая жонка нейкая ненармальная — ледзь што, лезе за пятрушкай на ігрушу.*

— *І праўда нешта ў яе не тое з галавой!*

— *Вось і я кажу. Лезе за пятрушкай, а вяртаецца з кропам!*

* * *

Пакупнік кажа прадаўцу:

— *Гэта непарадак! Прынясіце мне кнігу скаргаў!*

— *А які том?*

* * *

У вас ёсць кніга «Як стаць багатым за тры месяцы»?

— *Вядома, сэр. Але я параіў бы вам купіць яшчэ адну.*

— *Якую?*

— *Крымінальны кодэкс.*

*Неюбілейныя нататкі*

# «ДЫК ХІБА Ж МЫ ПРАЎ НЕ МАЕМ?..»

## Сёння дзень нараджэння Якуба Коласа

**Зусім не юбілейны дзень нараджэння — паэту споўнілася б 116.**

У нас як звычайна бывае: круглая дата — і доўгія прыгожыя прамовы, і разнастайныя юбілейныя мерапрыемствы... Іншыя лічбы праходзяць амаль незаўважна. Так атрымалася, што нашых класікаў ператварылі не столькі нават у афіцыйныя, колькі ў афіцыёзныя імёны — і вось яны ўжо не таленавітыя людзі, не «мятущиеся» супярэчлівыя асобы, а... помнікі.

Ды і само слова «класік» апошнім часам нярэдка вымаўляецца з адценнем пэўнага негатывізму. У адрозненне, скажам, ад слова «дысідэнт». Адно проціпастаўляецца другому. Час абсурду. Эпоха «дзівакоў». А можа — невукаў?..

Вось і пра Якуба Коласа пачула: афіцыёзны класік. Яшчэ б: паэт быў шырока прызнаны ў савецкі час, таму сёй-той дазваляе сабе па-панібрацку паляпаць па плячы Народнага Паэта. У моду зноў увайшло скідваць класікаў з карабля сучаснасці.

Што з намі адбываецца?..

Класіка (ад лацінскага слова «ўзорны») — выдатныя, агульнапрызнаныя творы літаратуры і мастацтва, якія маюць безумоўную каштоўнасць для нацыянальнай і сусветнай культуры.

Безумоўная каштоўнасць... Менавіта так можна сказаць аб пранізлівых радках, якія нарадзіліся ў Коласавай душы ў роздумах пра родны кут. І зараз, праз дзесяцігоддзі, яны гучаць надзвычай актуальна:

*Край мой родны! Дзе ж у свеце*
*Край другі такі знайсці,*
*Дзе б магла так, поруч з смеццем,*
*Гожасць пышная ўзрасці?*
*Дзе бы вобруку з галечай*
*Расквітнеў багацтва цуд*
*І дзе б з долі чалавечай*
*Насмяяліся, як тут?..*

***

Чаму так дрэнна ведаем мы сваіх класікаў? Чаму беларуская літаратура ў школах — у пераважнай большасці выкладаецца... жалезабетонна?. Чаму так мала ўвагі ўдзяляецца асобе паэта, пісьменніка: што непакоіла, а што радавала; што натхняла, а ад чаго апускаліся рукі?..



Магчыма, каб лепш уявіць, якім ён быў, Якуб Колас — Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч, — варта пачытаць яго дзённікі, перапіску. Напрыклад, апісваючы аўтабіяграфію ў лісце да Я.Ф. Карскага (ад 18/VI 1921 г.), ён успамінае дзяцінства: «Я любіў, прачнуўшыся раненька вясною, выбягаць на двор. Было ў мяне такое ўлюбёнае месца на дрывотні каля хаты, куды кідаліся першыя косы сонца. Мне вельмі падабалася сядзець цэлымі часінамі і слухаць, як спяваюць жаваранкі, і гэтыя песні для мяне сталі такімі зразумелымі, блізкімі, роднымі, што мне здавалася, быццам я разумею ўсё, што спявалі гэтыя пташкі. Маё вуха прывыкла адзначаць новыя тоны песень і лавіць асабістасці іх настрояў. <...> Чытаць я навучыўся незаметна. Кніга ў мужыцкай хаце была тады звычайная рэч, і граматных людзей таксама не бракавала. <...> Крылоў быў маім богам. Поўны зборнік яго баек, куплены мне дзядзькам Антонам, я вывучыў чуць не на памяць, і з гэтымі творамі вялікага генія я доўгія гады не разлучаўся. Мае першыя літаратурныя пробы былі байкі, якія я пачаў пісаць у 12-13 гадоў. <...> З 1902 года я служыў вучыцелем у пачатковых школах на Піншчыне. У 1906 годзе за з'езд настаўнікаў у Мікалаеўшчыне я быў зволен ад настаўніцкай службы і да 1908 года быў пад доглядам паліцыі і жандараў. У 1908 г., 15 сенцябра, мяне асудзілі на тры гады ў крэпасць. Гэтыя тры гады выседзеў у Мінскім астрозе. Пасля гэтага год не меў месца»...

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## ПАРЛАМЕНЦКІ СХОД «САЮЗА ДЗВЮХ» ПЕРАЎТВОРАНЫ Ў ПРАДСТАЎНІЧЫ І ЗАКАНАДАЎЧЫ ОРГАН

**Дзевятая сесія Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі пачала сваю работу 2 лістапада ў Яраслаўлі — адным са старэйшых расійскіх гарадоў.**

Сустрэча ж парламентарыяў дзвюх краін адбылася крыху раней на мяжы Яраслаўскай вобласці. Удзельнікаў форуму вітаў дзіцячы фальклорны ансамбль. Затым яны ўсклалі вянкі да мемарыяла баявой і працоўнай славы. Да пачатку работы сесіі кіраўнікі Парламенцкага Сходу наведалі акцыянернае таварыства «Аўтадызель», дзё азнаёміліся з ходам рэалізацыі сумеснай беларуска-расійскай праграмы па дызельнаму аўтамабілебудаванню. Было заяўлена аб тым, што гэту праграму можна па праву лічыць рэальным прарывам у галіне эканамічнай інтэграцыі дзвюх краін. Пацверджаны таксама намер фінансаваць яе як да канца гэтага года, так і ў наступным годзе, у тым ліку са сродкаў сумеснага бюджэту Саюза.

Адкрываючы сесію, кіраўнік ПС Генадзь Селязнёў падкрэсліў, што Парламенцкі Сход набірае сілу і ўсё больш упэўнена зацвярджаецца як прадстаўнічы орган улады Саюза. Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Анатоль Малафееў зачытаў прывітанне прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі, які пажадаў парламентарыям паспяховай і эфектыўнай работы. Дэпутаты атрымалі таксама наказ ад губернатара Яраслаўскай вобласці Анатоля Лісіцына, які асабліва адзначыў, што афіцыйны візіт у вобласць беларускай дэлегацыі на чале з Аляксандрам Лукашэнкам надаў новы імпульс міждзяржаўнай эканамічнай інтэграцыі.

Разгляд парадку дня сесіі пачаўся з абмеркавання самага галоўнага пытання — пераўтварэння Парламенцкага Сходу ў прадстаўнічы і заканадаўчы орган. Пасля непрацяглага абмеркавання гэты законапраект быў адобраны і накіраваны на разгляд Вышэйшага Савета Саюза. Сярод пытанняў, прапанаваных для разгляду, — законапраект аб грамадзянстве Саюза. Згодна з яго нормамі, грамадзяне дзяржаў—удзельніц Саюза атрымаюць роўны прававы статус і не будуць лічыцца на тэрыторыі другой саюзнай дзяржавы замежнымі грамадзянамі. Такі падыход будзе падмацаваны палажэннямі канцэпцыі пагранічнай палітыкі Саюза, якая прадугледжвае падтрыманне адзінай візавай прасторы на тэрыторыі Саюза. Як мяркуецца, саюзны парламент будзе валодаць правам прыняцця актаў прамога дзеяння.

Асаблівы пункт у парадку дня — так званае югаслаўскае пытанне. На дзевятай сесіі ў якасці наглядальнікаў прысутнічае дэлегацыя скупшчыны Югаславіі на чале з Ваіславам Шэшалем. У прывітанні да ўдзельнікаў форуму ён падкрэсліў, што парламентарыі Югаславіі шчыра жадаюць удзельнічаць у наступных пасяджэннях сесіі Парламенцкага Сходу як раўнапраўныя партнёры ўдзельнікаў Саюза Беларусі і Расіі.

Акрамя таго, у рабоце сесіі ў якасці наглядальнікаў прымаюць удзел прадстаўнікі Украіны і Арменіі.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, БЕЛТА.**

## Удзельнікам IV Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-98»

*Дарагія сябры!*

*Сардэчна вітаю ўдзельнікаў IV Міжнароднага музычнага фестывалю «Залаты шлягер-98», які традыцыйна збірае на беларускай зямлі лепшых прадстаўнікоў эстраднага мастацтва краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў і Еўропы.*

*Патрыятычны ўздым, глыбокі лірызм і сардэчнасць сталі спадарожнікамі гэтага фестывалю. Яго паэтычнае слова і музыка хвалююць сэрцы, напаўняюць наша жыццё духоўным святлом і прыгажосцю. Гэта цудоўнае свята ўпэўнена набірае сілу і займае дастойнае месца сярод яркіх культурных акцый, што праводзяцца ў нашай рэспубліцы.*

*Фестываль не толькі захоўвае культурны набытак брацкіх народаў, але і садзейнічае грамадзянскай згодзе, узмацняе інтэграцыйныя працэсы паміж дружалюбнымі дзяржавамі.*

*Выказваю глыбокую ўдзячнасць майстрам мастацтваў за духоўнасць, якую яны нясуць людзям.*

*Жадаю ўдзельнікам фестывалю высокіх творчых дасягненняў і поспехаў, новых хвалюючых сустрэч, шчасця і дабрабыту.*

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**

*2 лістапада 1998 года.*

## У ПЫТАННЯХ ВЫКАРЫСТАННЯ ЭНЕРГАЗБЕРАГАЛЬНЫХ ТЭХНАЛОГІЙ ТРЭБА ЗЫХОДЗІЦЬ З ДЗЯРЖАЎНЫХ ІНТАРЭСАЎ

Рэспубліканскі семінар па пытаннях гатоўнасці аб'ектаў аграпрамысловага комплексу да работы ў зімовы перыяд 1998-1999 гг. з прымяненнем энергазберагальных тэхналогій і абсталявання прайшоў на Гомельшчыне. Сведчаннем таго, наколькі важныя для дзяржавы праблемы, што абмяркоўваліся на ім, стаў удзел у мерапрыемстве прэм'ер-міністра Беларусі Сяргея Лінга.

Удзельнікі семінара адзначалі, што рэсурсаў, якія накіроўваюцца вёсцы ўрадам, і тых, што ўдаецца закупіць самім вяскоўцам, яўна недастаткова для эфектыўнага вядзення вытворчасці, у тым ліку і ў надыходзячы зімовы перыяд. А значыць, неабходна больш узважана, прадумана і з максімальнай аддачай атрымліваць карысць з таго, што маем.

У многіх рэгіёнах краіны менавіта так і робяць. Скажам, на комплексе па адкорму буйной рагатай жывёлы ў калгасе «Чырвоная Армія» Рагачоўскага раёна вялікія ды і ненадзейныя транспарцёры па раздачы кармоў, якія працуюць на электрычнасці, замянілі невялікім трактарам з раздатчыкам і адным механізатарам. У выніку затраты на электраэнергію зменшыліся роўна напалову.

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**

*Здарэнні*

## АБЫШЛІСЯ ЎДАРАМІ

Дарожна-транспартным здарэннем закончылася 2 лістапада аварыйная сітуацыя, якая склалася на дарозе Магілёў—Чэрыкаў з-за расійскай машыны замежнай вытворчасці. Вадзіцель аўтамабіля «Джып» паспрабаваў абагнаць калону, дзе ехалі журналісты, якія ўдзельнічаюць у асвятленні рабочай паездкі прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі па Магілёўскай вобласці. У выніку сутыкнення аўтамабіляў лёгкія ўдары атрымалі журналісты Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі і БЕЛТА. Разбіта адна тэлекамера, нязначна пашкоджаны самі аўтамабілі. ДАІ вядзе разбор.

**БЕЛТА.**

## Сяргей Дзмітрыевіч ЛЯМЕШЧАНКА

Пайшоў з жыцця Герой Сацыялістычнай Працы, ветэран Вялікай Айчыннай вайны і сельскагаспадарчай вытворчасці Сяргей Дзмітрыевіч Лямешчанка.



С.Д. Лямешчанка нарадзіўся 16(29) снежня 1910 года ў палескай вёсцы Ручэеўцы Лоеўскага раёна ў сялянскай сям'і. Практычна ўсё свядомае жыццё гэтага славутага чалавека, таленавітага арганізатара і ўмелага кіраўніка звязана з роднай зямлёй, сельскай гаспадаркай. З дзіцячых гадоў ён зведаў нялёгкую працу хлебароба. Пасля вучобы ў Судкоўскай школе сялянскай моладзі з 1925 года пачаў працаваць на зямлі ў сваёй роднай вёсцы, а закончыўшы ў 1930 годзе курсы радыёманцёраў, тут жа загадваў радыёвузлом. У 1935 годзе закончыў Брагінскі заатэхнікум. Далейшае жыццё С.Д. Лямешчанкі непарыўна звязана са Слуцкім раёнам. Да пачатку вайны ён працаваў заатэхнікам, галоўным заатэхнікам у Слуцкім райземаддзеле.

У час Вялікай Айчыннай вайны Сяргей Дзмітрыевіч у дзеючай арміі, ён ваяваў на Цэнтральным, 1-м і 2-м Беларускіх франтах.

Пасля дэмабілізацыі з 1946 года С. Д. Лямешчанка працаваў у Слуцкім раёне галоўным заатэхнікам райсельгасаддзела, машынна-трактарнай станцыі, а затым у 1959 годзе быў выбраны старшынёй калгаса імя Кірава, які ўзначальваў да выхаду на пенсію ў 1991 годзе. На гэтай пасадзе ў поўнай меры раскрыўся яго талент арганізатара і кіраўніка. Сяргея Дзмітрыевіча вызначалі высокі прафесіяналізм, шырокі кругагляд, прыродная кемлівасць, абвостранае пачуццё ўсяго новага і перадавога, клапатлівыя адносіны да людзей працы.

Складанае, неспакойнае і насычанае жыццё гэтага неардынарнага чалавека было яго школай і яго універсітэтамі.

За ратныя і працоўныя заслугі С.Д. Лямешчанка адзначаны высокімі ўзнагародамі Радзімы. Яму прысвоены званні Героя Сацыялістычнай Працы і заслужанага заатэхніка БССР. Ён узнагароджаны ордэнамі Леніна, Кастрычніцкай рэвалюцыі, Працоўнага Чырвонага Сцяга (трыма), Чырвонай Зоркі, Вялікай Айчыннай вайны, медалямі і іншымі ўзнагародамі.

Светлая памяць пра гэтага выдатнага чалавека і грамадзяніна захаваецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў.

**Лінг С. С., Замяталін У. П., Шакола І. П., Пётух П. П., Цішкевіч А. І., Ломаць З. К., Палякоў І. Я. Мікуліч У. А., Сухій Н. А., Яновіч А. А., Мірачыцкі Ф. У., Юнцэвіч А. У.**

## «ДЫК ХІБА Ж МЫ ПРАЎ НЕ МАЕМ?..»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Потым, праз гады, у паэме «Сымон-музыка» Якуб Колас напіша радкі, ад якіх — колькі ні перачытваю — сціскаецца сэрца:

*Эх, чаго нам ні прыйшлося,*
*Брацце мілыя, ужыць!*
*Колькі талентаў звялося,*
*Колькі іх і дзе ляжыць*
*Невядомых, непрызнаных,*
*Не аплаканых нікім,*
*Толькі ў полі адспяваных,*
*Ветру посвістам пустым!*
*Дык хіба ж мы праў не маем,*
*Сілы шлях свой адзначаць*
*І сваім уласным краем*
*Край свой родны называць?*

***

У ліпені 1923 года Якуб Колас працаваў на настаўніцкіх курсах у Слуцку. У лісце да жонкі ён падрабязна піша пра адносіны настаўнікаў да роднай мовы:

«Беларуская мова пастаўлена на курсах вельмі грунтоўна. Кожны слухач павінен даць лекцыю (практычную) толькі па-беларуску. <...> Сярод старых настаўнікаў прыхільнасці да беларускасці няма, але гэта не перашкаджае ім пісаць цэлымі вечарамі план лекцыі па-беларуску... Канферэнцыі адбываюцца на беларускай мове, пратаколы вядуцца па-беларуску. Сярод слухачоў ёсць такія хлопцы, што не прапусцяць ніводнага небеларускага слова. І калі часамі пачынае хто блытаць беларускую і расейскую мову, як гэта было раз на агульным сходзе, то з 10—15 месц ад слухачоў і слухачак чуюцца падказванні».

На курсах Якуб Колас чытаў «Новую зямлю». У тым жа лісце ён з прыемнасцю паведамляе жонцы: «Адзін слухач курсаў, непрыхільнік беларускасці, зазначыў беларусу: «Я не ведаў, што па-беларуску можна так пісаць. Зарэжаце мяне, калі я не навучуся беларускай мове».

***

Але не толькі пра лекцыі і праблемы піша паэт жонцы. Як ласкава, пяшчотна звяртаецца да яе: «Мая мілая, мая слаўная Маруся», «Мілая Маруська», «Мілая слаўная Марусечка», «Марусёначак»...

«Моцна, моцна цалую цябе». «Цалую цябе моцна-моцна і шчыра-шчыра»... І подпіс: «Твой і толькі твой Костусь». Або: «Увесь твой»...

А колькі слоў захаплення сыну: «Ах, мой мілы Юрачка! Дай пацалую твае чорненькія вочкі, твой лабок, твае губкі, што выказалі такую мілую, такую слаўную і шчырую прамову! «Няхай тату Бог пацалуе!» Калі вярнуся дадому, то ў Мінску куплю табе што-небудзь, бо ў Слуцку гола і пуста ўсякіх цацак. Пойдзем з табою ў лес грыбы збіраць, возьмем таксама і маму, бо яна добрая, слаўная, мілая, харошая...» (ліст ад 12 ліпеня 1923 года).

Сярэдні сын Якуба Коласа Юра загінуў у 1941 годзе на фронце.

Амаль праз чвэрць стагоддзя, 22 чэрвеня 1947 года, паэт запісаў у дзённіку: «Мінула 5 гадоў з таго дня, як пачалася вайна... Колькі страшных страт адбылося за гэты час! Пяць гадоў таму назад была са мною Маруся. 3-ці год, як ляжыць яна, самы дарагі для мяне і самы адданы мой друг, у сырой зямлі сярод магіл. Няма майго Юрачкі, і нічога не ведаю я, як загінуў ён і дзе загінуў. Якая зямля прытуліла яго косці?.. Як цяжка, як горка ўспамінаць аб маіх бясконца дарагіх нябожчыках. А я яшчэ жыву, хоць многа сілы і здароўя забралі ў мяне гэтыя пяць гадоў. Я аслабеў — старасць прад'яўляе свае правы. Я страціў радасць у жыцці. Я страціў сон. Мяне забівае кашаль. Часта думаю аб тым момансе, калі прыйдзецца навекі заплюшчыць вочы. А паміраць і страшна і не хочацца. Усё ва мне абураецца супраць смерці. Многа думак праходзіць у галаве. Я не запісваю іх, ды і запісаць іх цяжка. А шмат якія з іх я проста не хачу выносіць на людскі суд...»

А тое, што вынесена на суд чытача — на людскі суд — застаецца назаўсёды паэтавым тлумачэннем гістарычнага лёсу Беларусі:

*Брацце мае, беларусы!*
*У той кнізе людскіх спраў*
*Сам лёс, мусіць, для спакусы*
*Гэты край нам адзначаў.*
*Тут схадзіліся плямёны*
*Спрэчкі сілаю канчаць,*
*Каб багата адароны*
*Мілы край наш зваяваць.*
*А нас цяжка ў сэрца раніць,*
*Пад прыгон узяць навек,*
*Нашы скарбы апаганіць,*
*Душу вынесці на здзек,*
*Каб у віры той ашукі*
*Знішчыць нашы ўсе сляды,*
*Каб не ведалі і ўнукі,*
*Хто такія іх дзяды.*

***

У апошнія гады жыцця ў дзённіку Якуб Колас запісваў пра самае важнае, што з ім адбываецца.

«...Толькі што званілі са «Звязды» — даць што-небудзь ка дню вызвалення БССР, а потым і да 30-годдзя «Звязды». Так і няма калі жыць, адпачыць, папрацаваць над чым-небудзь» (31 мая 1947 года).

«... З раніцы ездзілі ў Смольню. Слаўная мясціна. Тая ж хата, у якой адбылася мая сустрэча з Янкам Купалам. На гумне агромнае буслава гняздо з буслямі. Мае дрэвы павырасталі. Проста не верыцца, што я саджаў іх 36 гадоў таму назад і так паразрасталіся яны за гэты час...» (2 чэрвеня 1947 года).

«Такога года я не памятаю. Не памятаюць і людзі, старэйшыя за мяне. Лета небывала сухое. Я праклінаў яго, як толькі мог і ўмеў. Высахла зямля, перасохлі балоты, пачалі гарэць тарфы. Мяне гэта дужа непакоіла. Брала злосць на людзей, якія праходзілі міма гэтых пажараў па прыказцы: мая хата з краю, я нічога не знаю.

Як многа яшчэ трэба палажыць працы, каб выхаваць народ так, як патрабуе таго новае жыццё, што адмяняе ўласніцтва на зямлю, на сельскую гаспадарку!..

Ой, многа работы» (23 лістапада 1951 года).

«... Прысніўся Леў Талстой. Я (і ў сне) помніў, што ён — геніяльны пісьменнік... Вобраз яго раздваіўся: малады, пабрыты, і стары, барадаты... Але мне было радасна хоць праз сон сустрэцца з волатам мастацкага слова. Хацелася б, хоць і ў сне, сустрэцца з Дастаеўскім: на свеце няма пісьменніка, роўнага Дастаеўскаму.

Канчаецца дзень 2/XII 1951 г.

Не ўсё ж запісана, што трэба было б запісаць».

***

***Сёння — дзень нараджэння Якуба Коласа.***

***Давайце павіншуем усіх нас з гэтым днём — і падзякуем роднаму краю за тое, што даў жыццё Паэту. Народнаму Паэту, чыё слова — на вякі.***

**Таццяна ПАДАЛЯК.**

*Рэпартаж «з колаў»*

## Сваё «серабро» барысаўскі БАТЭ прыраўноўвае да чэмпіёнскага «золата»

...Адразу ж за Мінскам нашу машыну спыніў сумесны патруль даішнікаў і мытнікаў.

«Што вывозім?» — адразу ж прычапіўся мытнік. — «Не вывозім, а вязём рэкламныя шчыты на футбольны матч у Барысаў». — «А за шчытамі што?» — «Яшчэ шчыты».

Пакорпаўшыся ў тых самых шчытах і не знайшоўшы анічога такога, што было б забаронена да вывазу, патруль нас адпусціў. Ля Барысава мы чакалі чарговай праверкі, але, на дзіва, тамтэйшы даішнік толькі правёў нас лянаватым поглядам: маўляў, едзьце спакойна, з нагоды футбольнага свята ў Барысаве чапаць вас не буду.

А для Барысава суботні матч апошняга тура чэмпіянату Беларусі паміж мясцовым БАТЭ і магілёўскім «Дняпром-Трансмашам» і сапраўды стаў святам. Барысаўчане добра ведалі, што любімай камандзе для таго, каб заняць другое месца ў першынстве, неабходна толькі перамога над ужо зараней вядомым чэмпіёнам з Магілёва (спадзявацца на тое, што бабруйская «Белшына» прайграе дома салігорскаму «Шахцёру» было б справай няўдзячнай), таму балельшчыкі, нягледзячы на дрэннае надвор'е, пачалі запаўняць стадыён ужо за гадзіну да сустрэчы. Падчас жа пачатку матча на трыбунах і ўвогуле яблыку недзе было ўпасці: балельшчыкі сядзелі, стаялі, «віселі» дзе толькі было магчыма.

Зрэшты, у той дзень футбалісты БАТЭ адплацілі сваім прыхільнікам па поўнай праграме, падараваўшы ім не толькі перамогу над чэмпіёнам, але і проста прыгожую гульню. Ужо ў першым тайме барысаўчане маглі не адзін раз пакараць «Днепр-Трансмаш», аднак мяч як зачараваны не хацеў трапляць у вароты гасцей. Чаго варты хаця б няўдалы удар Васіля Кутузава — малады футбаліст са слаўным прозвішчам умудрыўся не патрапіць у пустыя вароты.

У другім жа тайме хапала ўсяго: былі і нявыкарыстаныя моманты барысаўчан, і спрэчны момант, калі можна было забіць пенальці ў вароты гасцей (пасля гэтага трыбуны дружна прыгразілі адправіць суддзю Шмоліка на дэфіцытнае таннае «мыла»), і пераможны для БАТЭ гол Аляксандра Лісоўскага за 10 хвілін да заканчэння сустрэчы, і радасць перамогі пасля фінальнага свістка. Гэта трэба было бачыць! Барысаўскія футбалісты поўзалі на каленях перад сваімі балельшчыкамі і кідалі сваім фанатам футбольныя майкі, ляцеў угору галоўны трэнер БАТЭ Юрый Пунтус, а прэзідэнт клуба Анатоль Капскі проста цалаваў вароты стадыёна.

— Матч вызначаў хто ёсць хто на сённяшні дзень у нашым футболе, — сказаў пасля гульні Анатоль Анатольевіч. — І сёння камандзе БАТЭ давялося змагацца практычна з цэлай Сістэмай. Нават за дзень да гульні да мяне падыходзілі людзі і пыталі: «Ці нельга ўжо зараз вырашыць лёс заўтрашняга матча?» Спадзяюся, вы разумееце, аб чым я кажу... Дык вось, я хачу афіцыйна заявіць, што ні на якія закулісныя гульні клуб не пайшоў, хоць у апошняй сустрэчы нам давялося гуляць адразу супраць дзвюх каманд — «Дняпра-Трансмаша» і «Белшыны». Я ўдзячны за гэта камандзе, удзячны футбалістам, якія за гэты сезон выраслі да сапраўднага ўзроўню прафесіяналаў.

Юрый Іосіфавіч Пунтус быў больш стрыманы ў сваіх ацэнках:

— Што датычыцца канчатковага выніку, то я вельмі задаволены. І ўдзячны лёсу, што ён звёў мяне з такой камандай, як БАТЭ, — вы самі бачылі, якое свята мы падаравалі балельшчыкам і гораду. Для клуба, які першы сезон гуляе ў першай лізе і адразу ж займаў «серабро» — ужо перамога, якую можна нават прыраўнаваць да «золата» магіляўчан.

— Вы можаце пракаменціраваць дзеянні суддзі ў момансе, калі, як падалося, у штрафной магіляўчан быў збіты ігрок вашай каманды?

— Зараз я не хацеў бы гэтага рабіць. Каманда перамагла — а гэта самае галоўнае.

...Па дарозе дадому вырашылі заскочыць з супрацоўнікам спартыўнага аддзела «Інфабанка» Віктарам Стралкоўскім у адзін з барысаўскіх магазінаў купіць пару бутэрбродаў. Магазін нагадваў парыжскае кафэ пасля перамогі зборнай Францыі на чэмпіянаце свету. Гарэлку «размяталі» ў адзін момант, а з усіх куткоў крамы чулася: «БА-ТЭ — чэм-пі-ён!» Горад святкаваў перамогу.

**Алесь СІВЫ.**

## Газету «Навіны» абрабавалі

Мінская газета «Навіны» не зможа выпусціць у свет свой чарговы нумар за 3 лістапада. Аб гэтым паведаміў яе галоўны рэдактар Ігар Гермянчук.

Справа ў тым, што ў ноч на 1 лістапада з офіса рэдакцыі невядомымі злачынцамі былі вынесены ўсе рэдакцыйныя камп'ютэры і факс. Зладзеі прабраліся ў памяшканне на першым паверсе жылога дома па вуліцы Бядулі, выставіўшы шыбы. Дзейнічалі яны прафесійна: хуценька раскруцілі сістэмныя блокі камп'ютэраў і забралі толькі дарагое начынне чатырох новых камп'ютэраў. Маніторы і крышкі, астатняе «жалеза» іх не зацікавіла. Ігар Гермянчук паведаміў аб тым, што ўрон, нанесены рэдакцыі, ацэньваецца ім у тры тысячы долараў.

Але разам з абсталяваннем знішчаны рэдакцыйны архіў, базы даных, 2000 фотаздымкаў, якія захоўваліся ў памяці персанальных камп'ютэраў. Нават лагатып газеты рэдакцыі давядзецца выпрацаваць па-новаму. На месцы здарэння пабывалі прадстаўнікі Партызанскага РАУС горада Мінска.

Ігар Гермянчук падкрэсліў, што, нягледзячы на цяжкасці, газета будзе выходзіць: рэдакцыя «Навін» пазычыла некалькі камп'ютэраў, і наступны нумар з'явіцца ў падпісчыкаў ужо 4 лістапада.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ЗІМА БУДЗЕ ВЫПРАБАВАННЕМ ДЛЯ ВЯСКОЎЦАЎ

Асабліва цяжка сёння працуецца селяніну. Старажылы ўспамінаюць, што такое неспрыяльнае для сельгасработ надвор'е выдавалася ці не раз у некалькі дзесяткаў гадоў. Але хто б што ні казаў — вёска выстаяла і сёлета. Прадуктамі харчавання людзі будуць забяспечаны. Праўда, шмат якіх культур да планавага паказчыка недабрана. Таму, каб не толькі захаваць зімой жывёлу, а яшчэ і атрымаць мяса-малочную прадукцыю, неабходна прыкласці шмат дадатковых намаганняў.

Трэба быць гатовым да таго, што надыходзячы зімовы перыяд для нашай сельскай гаспадаркі стане сапраўдным выпрабаваннем. Як падрыхтаваліся да яго вяскоўцы? Ці гатовы фермы да зімы? Менавіта гэтыя пытанні былі галоўнымі на пасяджэнні калегіі Мінсельгасхарча. Дарэчы, на ёй адзначалася, што спецыялісты калгасаў і саўгасаў паціху вучацца працаваць, што сёння вельмі важна, у рэжыме эканоміі. Як прыклад прыводзіўся такі факт: за дзевяць месяцаў на 16 працэнтаў зменшылася выкарыстанне энерганосьбітаў. Праўда, гэта на тры працэнты менш, чым планавалася. Але калі ўлічыць, што шмат расходаў патрабавала сёлета дадатковая сушка пераўвільготненага зерня і адпампоўванне вялікіх аб'ёмаў вады са збожжавых палеткаў, то вынік, можна лічыць, неблагі. У значнай меры эканомія дасягнута і за кошт мясцовага паліва (дроў, пілавіння, стружкі і г. д.). Гаспадаркамі выкарыстана 64,5 тысячы тон умоўнага паліва. Ідзе яго назапашванне на зімовы перыяд. Каэфіцыент імпартных энерганосьбітаў прымушае рабіць і гэта.

Але, відавочна, гэтага мала. Куды больш важна і складана прывесці ў належны стан энергетычнае абсталяванне фермаў і комплексаў, завяршыць рамонтныя работы ў цэхах па нарыхтоўцы кармоў, у кацельнях. Як адзначалася, сітуацыя тут амаль крытычная: каля 50 працэнтаў таго ж энергаабсталявання не даведзена да ладу. Хтосьці з членаў калегіі слушна паставіў пытанне рубам: а што будзе, калі ў пачатку лістапада паўторацца маразы чатырохгадовай даўнасці? Абмяркоўваючы гэту праблему, спецыялісты прыйшлі да высновы: амаль палова яго выйдзе са строю. Многія прычыны таму аб'ектыўныя: адсутнасць фінансаў, адцягванне (да гэтага часу) значных сіл для завяршэння палявых работ. Але назіраецца і безадказнасць адпаведных службаў, нізкая выканаўчая дысцыпліна. Часу для навядзення парадку няма, падкрэслівалі члены камісіі. Таму ставіцца канкрэтная задача: на працягу тыдня завяршыць усе падрыхтоўчыя работы да зімовага перыяду. Перш-наперш зашкліць вокны, уцяпліць іх і дзверы, адрамантаваць катлы. І работа гэта павінна весціся сур'ёзна, з усёй адказнасцю.

Праўда, што датычыць энергетычнага абсталявання, то была ўзнята і праблема яго эфектыўнага выкарыстання ў перспектыве. Як лічаць спецыялісты, з-за нізкай напаўняльнасці фермаў і комплексаў амаль шэсць тысяч тых жа катлоў не будуць у надыходзячы зімовы перыяд выкарыстоўвацца. Як іх захаваць, каб потым не выдаткоўваць на аднаўленне і рамонт вялікія грашовыя сродкі? Спачатку трэба прааналізаваць перспектывы развіцця кожнай фермы, каб пабачыць поўную карціну таго, што канкрэтна трэба на дадзены момант пераабсталёўваць, а што можна закансерваваць. Перспектыўны план мадэрнізацыі вытворчых магутнасцяў павінен прадугледжваць набыццё пэўнай колькасці сістэм кантролю за расходаваннем цяпла, электраэнергіі, вады. Такая работа — не аднаго дня, але яе важна праводзіць мэтанакіравана. І пачынаць трэба, здавалася б, з дробязяў.

**Уладзімір АЛЯХНОВІЧ.**

## ШЧАСЦЯ ВАМ, БЕЛАРУСАЧКІ!

Маленькая Алёнка радуецца не каштоўнаму набытку, які яна разам з маці (злева) павязе ў вёску Навасёлкі на Слонімшчыну, а таму, што першы раз апынулася ў рэдакцыі сапраўднай газеты. Ды яшчэ якой! Гэта ж тая «Звязда» і той выйгрыш, аб якіх гаворыць уся вёска! Алёнцы хутка ў школу, і, дай Божа, каб бадзёрасць і вера ў цуд не пакідалі яе ўсё жыццё. Магчыма, на шляху да ведаў стрэнецца ёй яшчэ раз Марыя Васільеўна Дакунова (справа) — таксама ўладальніца каштоўнага прыза нашай латарэі, студэнтка філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта.

Новых удач вам, сябры!

**Віктар ХУРСІК.**
**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**




## Па візу ў ФРГ — па новаму адрасу

Як паведаміла нямецкае пасольства ў Мінску, 5 лістапада г.г. візавы аддзел пасольства пераязджае на новае месца. Прычына — тэхнічны стан будынка па вул. Старавіленскай, 44, які ўжо не гарантуе неабходны ўзровень бяспекі. Новы адрас візавага аддзела ў Мінску — вул. Будзённага, 10, непадалёку ад станцыі метро «Трактарны завод».

На час пераезду, выказвае шкадаванне пасольства, дакументы не будуць прымацца. Работу на новым месцы візавы аддзел пачне прыкладна 11 лістапада г. г.

**Леанід ТУГАРЫН.**

*КАМПЕТЭНТНЫ СУБЯСЕДНІК*

# ЭКАЛОГІЯ — СФЕРА РАНІМАЯ

**У гаспадарчых судах краіны разгледжана нямала спраў, звязаных з парушэннямі заканадаўства ў галіне аховы навакольнага асяроддзя. Сёння на пытанні «Звязды» адказвае старшыня Вышэйшага гаспадарчага суда Рэспублікі Беларусь Уладзімір БОЙКА.**

**— Уладзімір Васільевіч, на нядаўнім Прэзідыуме Вышэйшага гаспадарчага суда прыводзіліся факты парушэнняў гаспадарчымі аб'ектамі экалагічных законаў. Але, пагадзіцеся, гэта толькі бачная частка айсберга, многія ж выпадкі застаюцца пакуль за рамкамі судовых разбораў...**

— Не выключаю, канешне, што пэўная частка экалагічных правапарушэнняў не даходзіць да суда, не фіксуецца ў актах, пратаколах кантралюючых органаў. Але ад гэтага ўсім нам не лягчэй. Ад нядбайнай дзейнасці некаторых прамысловых прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў, сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак, кааператываў церпяць рэкі і ручаі, палі, сенажаці, лясы, атручваецца атмасфера. Кошт кожнага такога парушэння закона вельмі вялікі. І чым больш бяздумных дзеянняў у адносінах да прыроднага асяроддзя, тым больш слабым робіцца чалавек, гінуць флора і фауна. Думаю, гэта зразумела кожнаму.

Але і гэта яшчэ не ўсё. Сёння можна казаць аб адкрытай халатнасці некаторых гаспадарчых суб'ектаў і іх самавольстве ў адносінах да прыроды, аб пашырэнні маштабаў радыеактыўнага забруджвання і павелічэнні асабліва неспрыяльных экалагічных зон у месцах канцэнтрацыі хімічнай і нафтаперапрацоўчай прамысловасці. Акрамя таго, павялічваецца рызыка тэхнагенных катастроф, звязаных, з аднаго боку, са значным зносам вытворчага абсталявання, з другога — з шырокім прымяненнем недасканалых тэхналогій у прамысловасці і энергетыцы.

**— Вышэй вы казалі аб халатнасці і свавольстве некаторых гаспадарчых суб'ектаў. Можна прыклад?**

— Засмучальным прыкладам можа служыць катастрофа, што адбылася на адной з чыгуначных ветак нашай краіны. Вышэйшым гаспадарчым судом у свой час разглядалася гэта справа па іску французскай фірмы «Brets International & Commodities» да таварыства з абмежаванай адказнасцю «Лукойл-НК». У ім і вялася гаворка аб бядзе, якая адбылася па віне пэўнага кола асоб. Пазней французскай кампаніяй быў заяўлены іск аб пакрыцці страты ў суме звыш 60 тысяч амерыканскіх долараў.

Дык што ж здарылася? А здарылася тое, чаго і трэба было чакаць. У той дзень на адну са станцый прыбыло 10 цыстэрнаў з бензінам. Аднак грузаатрымальнікі спяшаліся, таму не сталі чакаць лакаматыва для падачы цыстэрнаў, не звярталі ўвагі на элементарныя меры бяспекі. Спадзяваліся, што «пранясе». Але на гэты раз не «пранесла». Цыстэрны з бензінам пачалі самаадвольны рух з гары і, дасягнуўшы вялікай скорасці і ўткнуўшыся ў тупік, звярнулі з рэек і... перакуліліся. 224 тоны высокаактанавага бензіну расцякліся на вялізнай тэрыторыі. Згубны паток па лагчыне рушыў да сярэдняй школы. Ніхто не ведаў, што можа адбыцца ў наступнае імгненне. І толькі дзякуючы зладжаным дзеянням аварыйнай каманды, якая некалькі дзён запар вяла аварыйна-аднаўленчыя работы, небяспека для людзей і ўсяго жывога ў сумежным раёне мінула.

Іншымі словамі, як важна сёння кожнаму з нас своечасова спыніцца, агледзецца, узважыць — ці не пашкодзіш ты ёй, маці-прыродзе, сваёй неабдуманай, а часта і неўтаймаванай дзейнасцю.

**— Зыходзячы з канкрэтнага выпадку, узнікае пытанне: дык хто ж павінен займацца праблемай аховы экалогіі?**

— Вядома ж, у першую чаргу тыя, хто можа значна паўплываць на гаспадарчую дзейнасць. Гэта значыць кіраўнікі канкрэтных прадпрыемстваў і арганізацый. І вырашаць яе трэба з дапамогай радыкальных перамен, а не абыходзіцца штрафамі.

Прэзідыум суда, у сваю чаргу, прызнаў неабходным заслухаць у бліжэйшай перспектыве на сваім пасяджэнні адзін з гаспадарчых судоў, магчыма, з запрашэннем для ўдзелу ў рабоце зацікаўленых бакоў. Гэта не самамэта — узнікла патрэба ў больш скрупулёзным аналізе спрэчак па ісках, звязаных з аховай навакольнага асяроддзя, наладжванні больш цеснага кантакту гаспадарчых судоў з прыродаахоўнымі органамі. І, падобна, у гэтым плане наша пазіцыя супала з думкай па гэтай праблеме міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Міхаіла Русага. Зразумела, узаемная зацікаўленасць можа надаць магутны імпульс у справе ўтаймавання правапарушэнняў у экасістэме.

**— Уладзімір Васільевіч, ці не адбіваецца на забеспячэнні прававой аховы экалогіі цяжар, магчыма, недастаткова прапрацаваных у гэтай галіне законаў?**

— Не, не адбіваецца. Ды і якасць законаў цалкам задавальняе суды. На цяперашнім этапе больш важна дабіцца таго, каб няўхільна выконваліся гаспадарчымі суб'ектамі тыя прыродаахоўныя акты, якія ўжо працуюць: «Аб ахове атмасфернага паветра», «Аб адходах вытворчасці і спажыванні», «Аб ахове навакольнага асяроддзя» і г. д. А гэта зусім нямала. Разам з тым не будзем забываць, што поруч з названымі законамі маюцца Лясны і Водны кодэксы, шэраг галіновых нарматыўна-прававых актаў, якія вызначаюць правілы і методыкі падліку ўрону ад парушэння прыродаахоўнага заканадаўства.

Факты ж з судовай практыкі красамоўна сведчаць аб іншым. Сапраўдным няшчасцем для навакольнага асяроддзя з'яўляецца эканамічная незацікаўленасць прадпрыемстваў у эфектыўнай прыродаахоўнай дзейнасці, нізкія аб'ёмы фінансавання ахоўных мерапрыемстваў. У выніку ўзровень ахоўных збудаванняў на шэрагу фабрык, заводаў абуральна нізкі.

Словам, вяртаючыся да пытання, заўважу: мала мець прымальныя законы, трэба яшчэ забяспечыць іх выкананне, баланс правоў і адказнасці.

**— Наколькі мне вядома, маюцца выпадкі, калі суд першай інстанцыі часам адмаўляе істцу ў задавальненні патрабаванняў, у тым ліку па спрэчках, звязаных з аховай экалогіі. У чым тут прычына?**

— Падобных прыкладаў адзінкі. У аснове ж ляжыць нядбайнасць пры падрыхтоўцы адпаведных дакументаў. У прыватнасці, у гаспадарчы суд Віцебскай вобласці з патрабаваннем аб спагнанні 25,3 мільёна рублёў урону з ВА «Аблаграпрамтранс» звярнуўся абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Аднак высветлілася: пры вызначэнні нормаў утрымання вокісу вугляроду ў выхлапных газах аўтамабіляў існец няправільна прымяніў нормы ДАСТа. І, вядома ж, суд, які рашуча спыняе любыя адступленні ад закона, аддзяляе, скажам так, зерне ад пустазелля, не знайшоў падстаў для разбору ў судзе.

**— У ходзе пасяджэння прэзідыума прыводзіліся лічбы: у рэгіёнах учынена больш як 43 тысячы парушэнняў экалагічнага заканадаўства, у тым ліку звыш 15 тысяч, выкрытых рыбааховай. Якія гаспадарчыя спрэчкі выклікаюць у вас найвялікшую заклапочанасць?**

— Заклапочанасць, трывогу выклікае любое правапарушэнне ў галіне экалогіі. Таму даволі складана выдзеліць з гэтых маленькіх і вялікіх гаспадарчых аварый і катастроф штосьці асабліва. Так, у прыватнасці, на слыху разбор справы, звязанай з дзейнасцю кааператыўнага прадпрыемства «Ніва», якая разглядалася ў гаспадарчым судзе Гродзенскай вобласці. З вінаватага боку па ісках абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і камітэта рыбааховы было спагнана судом больш як 852 мільёны рублёў урону. Што ж зрабіла кааппрадпрыемства, што да яго такія сур'ёзныя прэтэнзіі прад'явілі два істцы? Аказваецца, тут адбыўся той выпадак, калі эканамічная праблема паступова перарасла ў экалагічную. У выніку аварыйнага выкіду гнаявой жыжкі з накапляльнікаў комплексу была забруджана не толькі сумежная тэрыторыя, але і рака. У выніку загінула рыба.

Словам, кантралюючым органам, судам няма калі сядзець склаўшы рукі і абыякава глядзець на парушальнікаў экалагічных законаў. Таму што адмаўленне ад магчымасці «караць рублём» азначала б непрацыўленне масавым выпадкам забруджвання навакольнага асяроддзя. У прыватнасці, нямала іх засведчана і ў судовых рашэннях па ісках лясных і лесапаркавых гаспадарак. Назаву такі прыклад: гаспадарчым судом Магілёўскай вобласці была разгледжана справа па іску да малога прадпрыемства «Тры кіты» аб спагнанні ўрону ў сувязі з засмечваннем лесу бытавымі адходамі. Іск быў заяўлены Магілёўскім лясгасам. Пры разборы па гэтай справе ў судзе было выяўлена, што пры абходзе зялёнай зоны леснікам былі знойдзены бытавыя адходы, сярод якіх знаходзіліся і журналы дзяжурстваў ахоўнікаў вышэйпамянёнага малога прадпрыемства. Гэты факт быў зафіксаваны ў пратаколе, які потым фігураваў у якасці аднаго з доказаў у судзе.

**— Вядома ж, гаспадарчыя суды, кантралюючыя органы ўносяць значны ўклад у справу аховы навакольнага асяроддзя. Але, відавочна, працэсы аздараўлення ідуць вельмі складана...**

— Так, даволі складана. Адчуваецца недахват у гаспадарчых суб'ектаў сродкаў на пераабсталяванне ачышчальных збудаванняў, цяжкія наступствы нясе Чарнобыль. Аднак хто і што перашкаджае нам аднавіць экалагічную культуру хаця б на ўзроўні самасвядомасці, на чым яна заўсёды і трымалася? Устанавіць ільготнае падаткаабкладанне тым, хто ўкладвае сродкі ў рэальныя праекты, звязаныя з аховай прыроды.

Зразумела, акрамя гэтага неабходны і прававы механізм. Калі, да прыкладу, гаспадарнік адкрыта ігнаруе нормы, заложаныя ў прыродаахоўным заканадаўстве, то трэба прымяніць да яго прадугледжаныя законам санкцыі. Гэтыя меры, безумоўна, палепшаць сітуацыю.

**Гутарыў Валянцін БАРЫСЕВІЧ.**

## ФАЛЬШЫВАМАНЕТЧЫКІ «ПРАКАЛОЛІСЯ»

19 фальшывых 100-доларавых амерыканскіх купюр прывёз у Гомель 27-гадовы жыхар Літвы А. Г. Прымусілі яго гэта зрабіць, як ён сказаў пасля на допыце, абставіны. А менавіта: ганяючы ў Расію і Беларусь на продаж іншамаркі, ён учыніў аўтааварыю, у выніку чаго павінен быў вярнуць дзве тысячы долараў уладальніку разбітай «Таёты». Грошы яму ніхто не пазычаў, і толькі сябар дзяцінства параіў заняцца збытам фальшывых долараў, з чым ён прыехаў у горад на Сожы. Тут А. Г. у дыска-клубе пазнаёміўся з 20-гадовай В. Г., якая гандлявала на рынку. «Салодкая парачка» і занялася рызыкоўнай справай, да якой падключыліся яе брат і сябар. Але, як кажуць, і міліцыя не спала ў шапку. На працягу двух дзён яна арыштавала А. Г. і пяць чалавек, якія, хто асэнсавана, а хто міжволі, сталі яго саўдзельнікамі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**



### СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 7.13 | 16.33 | 9.20 |
| Віцебск – | 7.07 | 16.19 | 9.12 |
| Магілёў – | 7.02 | 16.23 | 9.21 |
| Гомель – | 6.57 | 16.23 | 9.26 |
| Гродна – | 7.29 | 16.48 | 9.19 |
| Брэст – | 7.23 | 16.55 | 9.32 |

### МЕСЯЦ

**Поўня 4 лістапада.**
**З 15.58 — 15-ыя месяцавыя суткі.**
**З 13.13 Месяц — у сузор'і Цяльца.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Іларыёна, Якава, Феафіла**
**К. Марціна, Сільвіі**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, на большай частцы тэрыторыі ападкі. Вецер заходні, 5—10, месцамі парывы да 14 м/сек. Тэмпература паветра ў Віцебску — 2—4, Мінску, Брэсце, Гродне, Магілёве — 3—5, Гомелі — 4—6 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак на большай частцы тэрыторыі ападкі. Вецер паўднёва-заходні, 6—11, парывы да 14 м/сек. Тэмпература ўначы 4-га — 0—5 градусаў цяпла, 5-га — мінус 2—плюс 3; удзень — 1—6 градусаў вышэй нуля.

*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

# А КАЗЫРНЫМ ТУЗОМ БЫЛА ВІЗІТКА

Два маладыя і сімпатычныя чалавекі ехалі па Гомелю ў тралейбусе, а побач стаяла маладая і прыгожая жанчына. Слова за слова, камплімент за кamplіментам, і кабета назвала ім свой нумар тэлефона: званіце, калі ласка. Тыя пазванілі літаральна на другі дзень, і адзін з іх нясмела спытаў, ці можна прыйсці да яе ў госці для больш блізкага знаёмства. А трэба сказаць, што жанчыне той, старэйшы, які «паклаў» на яе вока, спадабаўся адразу ж: культурны, ветлівы, статны. Таму і не адмовіла.

Кветкі, торт, шампанскае, цікавыя размовы яшчэ болей размякчылі сэрца і пачуцці маладзіцы, і яна дала згоду на далейшыя спатканні, якія паступова перараслі ў заляцанне. Дайшло да таго, што закаханы загаварыў аб жаніцьбе, і тады жанчына спытала: а з кім яна мае справу? І ў адказ атрымала з густам аформленую візітку: намеснік генеральнага дырэктара адной з маскоўскіх фірмаў. А напарнік — дырэктар філіяла фірмы ў Мінску. Што яны робяць у Гомелі? Жывуць у гасцініцы і набіраюць жадаючых на працу ў Германію, Чэхію, Бельгію. Якія ўмовы? Цудоўныя. Аплата «баксамі». Калі ёсць знаёмыя, хто хоча падзарабіць на новенькую іншамарку, — можам узяць без чаргі.

Пераб'юцца тыя знаёмыя, падумала жанчына, а ў голас сказала: «Родзічаў вунь колькі ў мяне беспрацоўных. Прапаную, дык у тэмпе «Лявоніхі» прыбягуць». Няма праблем, адказаў ухажор і прыхінуў жаданую да грудзей.

Чатыры родзічы маладзіцы і яе сяброўка пачалі афармляць дакументы (фатаграфавацца, праходзіць медыцынскі агляд па поўнай праграме, пісаць розныя заявы, запаўняць асабовыя справы і г.д.), адначасова шукаючы па трыста долараў. Праўда, у каго-нікага з іх зрэдку з'яўляліся апасенні: ці не махляры тыя хлопцы? Але яны адразу ж рассеяліся пры асабістых сустрэчах, бо фірмачы зрабілі на іх прыемнае ўражанне: такія не абдураць. Да таго ж адзін з іх — жаніх іхняй родзічкі, якая дала ім адпаведныя рэкамендацыі. Тым болей, што яны пайшлі насустрач цяжкасцям сяброўкі родзічкі: тая змагла сабраць усяго сто долараў, а фірмачы галантна супакоілі яе (пэўна, улічваючы знешнасць жанчыны), нічога, заплацім за цябе, а вернешся — аддасі доўг.

І вось ужо ўсё гатова. Здадзены пашпарты, прызначаны дзень адпраўкі ў Маскву групы, якую будуць дастаўляць туды фірмачы. І калі пяцёрка з'явілася на чыгуначны вакзал і поезд даў развітальны гудок, група яшчэ не верыла, што іх абвялі вакол пальца хітрамудрыя махляры. Можа што здарылася, можа што перашкодзіла, супакойвалі яны сябе. І толькі праз некалькі дзён пераканаліся: плакалі іхнія грошыкі.

Міліцыя затрымала абыходлівых махляроў у Рэчыцы, дзе яны пражывалі ў інтэрнаце адной з арганізацый і па вечарах балявалі ў рэстаране. Абодва, як яны расказалі ўжо ў следчым ізалятары, з горада Смаргоні: адзін працаваў кабельшчыкам-спайшчыкам, ды звольніўся ў пошуку лёгкіх і вялікіх грошай, другі ж увогуле біў лынды. Да гэтага яны гастралявалі па Віцебшчыне, дзе падманулі (у Паставах) чатырох чалавек, затым накіраваліся на Браншчыну. Але там іх напаткала няўдача: паспелі завербаваць толькі аднаго чалавека, як на іх «наехаў» рэкет. Таму яны своечасова далі адтуль драпака.

А ўсяго ў махляроў знайшлі 12 пашпартоў грамадзян, з якіх яны садралі значную суму «зялёненькіх». Згодна з Крымінальным кодэксам Рэспублікі Беларусь махлярам пагражае пазбаўленне волі тэрмінам да дзесяці гадоў. Але ўсё будзе вырашаць суд.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*З ЧЫТАЦКАГА ДЗЁННІКА*

# АПАВЯДАННЕ, ВАРТАЕ ДОБРАГА РАМАНА

ГРАМАДЗЯНЕ, якія сур'ёзнай мастацкай літаратуры, у тым ліку беларускай, не чытаюць, дазваляюць сабе непачціва заяўляць: «Вам няма чым хваліцца, спадары пісьменнікі. Новых выдатных твораў, якімі б захапляўся народ, не відно. Так што і на ўвагу прэтэндаваць нечага...»

Грамадзяне, аднак жа, памыляюцца. Грамадзянам, мабыць, проста хочацца, каб гэтак было. Бо ў сапраўднасці — выдатныя новыя творы пішуцца і па магчымасці друкуюцца. Адзін з апошніх прыкладаў — апавяданне Івана Пташнікава «Тры пуды жыта» («Літаратура і мастацтва» за 7 і 14 жніўня г.г.). Апавяданне, вартае добрага рамана, — столькі ў ім месціцца таго, што мы называем жыццём і лёсам чалавека. Пра што яно канкрэтна, які яго сюжэт? Пра жыццё і лёс беларускай сялянкі Александрыны, у якой ў 1937-м пагранічнікі забралі мужа, Сяльвестру, добрага, любага ёй чалавека, сумленнага аратая і сейбіта, калгасніка. Пра тое, як яна ўвесь час, ад таго страшнага дня, верыла, што ён жывы, і чакала яго, а на пачатку 1958-га атрымала «звяшчэнне», што «дело за отсутствием состава преступления прекращено» і што яе Сяльвестра «реабилитирован посмертно». Пра тое, як праз колькі месяцаў пасля «звяшчэння» ад імя і з ласкі дзяржавы ёй выпісалі кампенсацыю: тры пуды жыта і паўгектара сенакосу. За жыццё чалавека, за адабранае і растаптанае сямейнае шчасце, за скалечаныя і панявечаныя лёсы — яе і яе дзяцей, за дваццаць гадоў невымерных пакут і болю, — тры пуды жыта і паўгектара сенакосу! O tempora, o mores!

Чытаць апавяданне балюча. Увесь час сэрца працінаецца вострым, як шаршатка, пытаннем: дык што ж гэта такое ў нас рабілася? Што гэта за жыццё было, што за сацыяльна-грамадскі лад і рэжым? Пытанне раніць тым больш глыбока, што ведаеш і разумееш: у чалавечым лёсе Александрыны, як свет у кроплі расы, адлюстраваны лёс нашай няшчаснай беларускай вёскі, лёс нашага абяздоленага народа. Перад намі — магутнае па сіле і яркасці мастацкае ўвасабленне лёсу соцень тысяч беларускіх жанок, якім выпала жыць — ад маладосці да старасці — ва ўмовах жахлівых сацыяльных і маральных катаклізмаў. Якім — скажам праўду да канца — было суджана прынесці ўсё сваё жыццё ў ахвяру незразумелай ім хімеры, не пражыць яго, а прамучыцца, церпячы не толькі нэндзу-нястачу, але і горкія крыўды, абразы і здзекі, гвалт і глумленне з чалавечай годнасці.

Даўно заўважана: ёсць творы мастацкай прозы, якія цытаваць амаль немагчыма, бо не ведаеш, што выбраць, а што апусціць, бо хочацца перапісваць усё спрэс — настолькі ўсё здаецца істотным, важным, значным для разумення ідэйна-філасофскага зместу твора, і настолькі маляўніча, выразна, хораша пададзена ў ім усё тое, пра што расказваецца. Апавяданне «Тры пуды жыта» належыць менавіта да гэткіх. Пташнікаў — прызнаны майстар слова, таму дасканаласць яго мастацкага пісьма, здавалася б, здзіўляць не павінна, асабліва пасля такіх шэдэўраў, як «Ільвы» і «Францужанкі». І аднак жа — вось, калі ласка: радасна здзіўляе зноў. У каторы раз перачытваю апавяданне і сачу, як шкрэбаецца аб заледзянелую шыбіну чырванагруды гіль, як вымагае самагонкі агідны апушчэнец і п'яніца брыгадзір Петражыцкі, як хітра аддае ўжо прачытанае ёю «звяшчэнне» пісьманоска Магрэта, як заходзіць у кантору калгаса і трымаецца там Александрына, як яна распісваецца за тры пуды жыта, як забірае яго і едзе з ім у кузаве дадому, стаўшы каля мяшка на калені, як яна захлынаецца ў хаце, застаўшыся адна, слязьмі, як, нарэшце, яна пачынае зразаць касою шэры бабок на адмераным ёй паўгектары сенакосу... Усё гэта пададзена пісьменнікам у вышэйшай меры псіхалагічна праўдзіва, кожны крок Александрыны, кожны жэст, кожны імпульс думкі, кожнае слова — усё выверана і ўзважана на самых дакладных шалях чуйнай і ўразлівай чалавечай душы. Божа, колькі болю і горычы за лёс звычайнай вясковай жанчыны! Ну так, звычайнай, — у тым сэнсе, што жыла звычайным сялянскім жыццём, рабіла, як і ўсе жанчыны ў вёсцы, звычайную сялянскую работу. І аднак жа — зусім-зусім незвычайнай, бо — непакорнай і нязломнай у сваім супрацьстаянні злу, несправядлівасці і няпраўдзе, бо — непахісна перакананай, што чалавеку даражэй за ўсё ў жыцці павінна быць яго ўласная чалавечая годнасць. Бо менавіта на такіх, як яна, трымаецца свет.

Заглыбленая каранямі ў народную паэтычную творчасць, жывячыся яе міфалогіяй і паэтыкай, беларуская літаратура ведае безліч узораў творчага выкарыстання сімволікі як спосабу мастацкай тыпізацыі. Чытач з 60-гадовым стажам, я даўно прывык сустракаць на старонках беларускіх кніг па-майстэрску створаныя сімвалічныя вобразы, малюнкі, карціны, ці проста эпізоды і дэталі. Але такой ашаламляльна-смелай карціны, як у «Трох пудах жыта» І. Пташнікава, я ў нашай багатай мастацкай прозе прыгадаць не магу. Гэтай карцінай апавяданне заканчваецца. Александрына, накляпаўшы на «чорнай бабцы» — сама! — «цяжкую фінскую васьміручку», ад ранку, «з додніцы», косіць атрыманую дзялянку сенакосу. Спачатку — куп'ё, парослае зязюльчыным мохам і верасам, а затым — балота з высокай густой травой і шэрым бабком, які даўно адцвіў і яго галоўкі сям-там парабіліся чырвонымі. Жанчыну пакідаюць сілы, звініць у галаве, шэры туман у вачах, але яна не выпускае касы з рук. Шарх! — і ляцяць долу чырвоныя галоўкі бабку, а ўжо не бабку — а ўзнятыя над травою галовы гадзюк. Шарх! — а ўжо не шэры бабок з чырвонымі галоўкамі перад ёю, а шэрыя шынялі і чырвоныя аколышы пагранічнікаў, што забіраюць і гоняць да машыны яе Сяльвестру. Шарх! — а ўжо не пагранічнікі ў ваччу, а ўласаўцы, «у нашай ваеннай форме», якія зганяюць у адну хату і збіраюцца паліць людзей... Шарх! — а цяпер ужо ўсе галовы гадзюк як Петражыцкія... «Пасля яны ўсе перамяшаліся: і галоўкі бабку, і галовы гадзюк, і пагранічнікі, і ўласаўцы, і Петражыцкія... «Столькі гадаўя на зямлі... Як ты іх усіх перарэжаш...» Але зноў павяла ўлева галава. За касой. Кальнула ў грудзях. Горла сціснула сухая сіпка — не дыхнуць. Падаючы, яна яшчэ ўбачыла, як зразае касой — шырокай, бліскучай, вострай — падсохлыя галоўкі шэрага бабку».

Александрына, аднак, ачуняла. З пакосу яе прывяла дадому дачка Волька. А праз дзень яна ўжо ўстала з пасцелі, каб брацца за работу.

— Яна ў нас такая...

Так трыма слоўцамі як бы падагульняе ўсё, што мы даведаліся пра Александрыну, яе сын Аркадзя, пакліканы тэлеграмай на радзіму.

Некалькі слоў асобна хочацца сказаць пра мову пісьменніка. Сорак гадоў яго чытаю — і кожны раз думаю: мова, мова і яшчэ раз мова! Пташнікаў — гэта мова. Гэта — адно з найбольш пераканаўчых сведчанняў невычэрпных лексічных багаццяў і фразеалагічна-сінтаксічных магчымасцяў нашай роднай-прароднай мовы. Калі ўсю яе, у агульнанацыянальнай цэласнасці, уявіць адным неабсяжным акіянам, то па ўсіх ускраінах гэтай магутнай непрагляднай прасторы, гэтай вечна рухомай, неспазнанадзіўнай стыхіі ёсць яе састаўныя — паасобныя моры. У кожнага з вялікіх носьбітаў і захавальнікаў роднае мовы — яно сваё, адметнае, непаўторнае, якое, аднак жа, утрымлівае ў сабе і выяўляе сабою дух і моц усяе акіян-стыхіі. Можна, як на маё чуццё і разуменне, гаварыць пра сваё, выразна адметнае моўнае мора Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Лукаша Калюгі, Івана Мележа, Янкі Брыля...

«Апошнія з магікан» у гэтым шэрагу (не дай Бог, апошнія! Але на сёння — гэта так.) — Іван Пташнікаў і Вячаслаў Адамчык. Добрай, дакладнай і ўвогуле багатай мовай вызначаюцца і некаторыя іншыя постаці сучаснай беларускай літаратуры, але гаворка тут не проста пра «добрую і багатую», а пра мову-з'яву, мову-феномен, мову-мора, у неагляднай стыхіі якой — таямніцы нашае веры ў яе неўміручасць.

Тым з чытачоў, у каго густ да змястоўнай і гукавой якасці слова прытуплены ці адсутнічае зусім, каму перш за ўсё дай займальнае развіццё фабулы і вострыню інтрыгі, чытаць такіх пісьменнікаў, як Пташнікаў, цяжка. Яны і чытаюць звычайна не пісьменнікаў-мастакоў, а пісьменнікаў-белетрыстаў. Ну што ж, як гэта кажуць, — на здароўе! Але так хочацца пажадаць усім, хто цікавіцца беларускай літаратурай, асабліва моладзі, часцей заглядаць у тыя кнігі, у якіх чутно магутнае дыханне і бачны несутрымна-пераліўныя фарбы-колеры моўнага акіян-мора.

Лічу патрэбным, на завяршэнне, патлумачыць, чаму ўсё ж вырвалася з душы гэтае невясёлае метафарычнае азначэнне «апошнія з магікан». Справа ў тым, што ў нас надзвычай інтэнсіўна ідзе глабальны працэс нівеліроўкі рэгіянальных гаворак, з якіх паўставалі адметныя пісьменніцкія мовы-з'явы — Купалы (Лагойшчына), Коласа (Стаўбцоўшчына), Гарэцкага (Мсціслаўшчына), Чорнага (паўднёвая Міншчына), Мележа (Мазырскае Палессе), Брыля (Наваградчына) і г.д. Цяпер у кожным з гэтых рэгіёнаў чыстай мясцовай, тамтэйшая мовай ужо амаль ніхто не карыстаецца, усюды пачынае панаваць агульнабеларуская, лепш сказаць — беларуска-савецкая «трасянка». У стыхіі гэтай «трасянкі» гадуюцца-вырастаюць новыя генерацыі пісьменнікаў, мову яны засвойваюць галоўным чынам з беларускіх кніг — з многіх і розных, таму каранёвая, матчына гаворка праступае-прасвечваецца ў іх творах ужо слаба. Пераважае знівеліраванаўсярэдненая літаратурная мова, смакаты-асалоды ад якое столькі, як ад мовы Пташнікава ці Адамчыка, ужо не атрымліваеш. Русіфікацыя — праз «трасянку» як пераходную стадыю — робіць сваю пагібельную справу.

**Ніл ГІЛЕВІЧ.**

*МУТАЦЫІ*

# МАЛЕНЬКІ ЗЯЛЁНЫ ВУСЕНЬ

Апошнім часам не пакідае ўражанне, што ў гэты час, вось той, які прынята называць сучаснасцю, я ўжо жыў раней. Феномен, дарэчы, даўно вядомы, носіць назву «дэжа вю»,— аднойчы бачанае. Наколькі магу меркаваць, адчуванне «дэжа вю» знаёма зараз даволі вялікаму колу людзей, звязаных з культурай, мастацтвам, журналістыкай, — словам, з работай у сферы духоўнай дзейнасці чалавека.

А камусьці — тут таксама трэба гаварыць аб вялікай колькасці — гэта адчуванне не ўласцівае. Яны і жылі толькі раней, сёння ім далі магчымасць вярнуцца назад. Нездарма, праўда, гаворыцца: усё добра ў свой час. Скажам, рабаўладанне было апраўданым для антычнасці, а патрабаваць яго ўвядзення сёння — форма ідыятызму.

Тут адбываюцца цікавыя, часта — проста дзівосныя мутацыі. Ёсць сэнс у гэтым разабрацца. Як гаварыў мой любімы пісьменнік, маральныя ісціны, канешне, рэч банальная, але неаспрэчная.

●

Калі Сяргей Даўлатаў жыў у СССР, яго апавяданні нідзе не друкавалі. Васьмігадовая дачка Каця вельмі з-за гэтага перажывала. І аднойчы параіла тату: «Што ты ўсё пішаш аб дрэнным? Ты напішы аб чым-небудзь добрым. Напішы пра сабаку. Можа быць, калі ты напішаш пра сабаку, тваё апавяданне надрукуюць...» Пра сабаку Даўлатаў пісаць не стаў. Ён напісаў казку. Яна кароткая, я працытую:

«У нейкай дзяржаве жыў-быў мастак. Аднойчы яго запрасіў да сябе кароль і кажа:

— Намалюй мне карціну. А я цябе шчодра ўзнагароджу.

— Што ж я павінен намаляваць?

— Усё, што хочаш, — адказаў кароль, — усё, што хочаш, апрача маленькага зялёнага вусеня.

— Значыць, я магу намаляваць усё, што я захачу? — яшчэ раз спытаў мастак.

— Зразумела, — адказаў кароль, — за выключэннем маленькага зялёнага вусеня.

Мастак пайшоў дадому, каб узяцца за работу. Прайшоў месяц, другі, трэці, каралю надакучыла чакаць і ён зноў выклікаў да сябе мастака.

— Дзе ж карціна? — спытаў ён.

Мастак уздыхнуў і адказаў:

— Я не магу намаляваць гэту карціну. Таму што я з ранку да ночы думаю пра маленькага зялёнага вусеня...»

Яшчэ адна варыяцыя на тэму свабоды творчасці. Яна застаецца актуальнай. Свабоды не можа быць многа ці мала — свабода павінна быць абсалютнай: гэта для нас застаецца пытаннем дыскусіі, а не штодзённай практыкі. Альбо — альбо. Альбо поўная свабода творчасці, альбо... маленькі зялёны вусень.

●

Я не магу зразумець выраз «пісьменніцкі калектыў». Што гэта, увогуле, значыць? Вось стол, вось папера, вось пісьменнік — гэта мне ясна. Пры чым тут калектыў? Аб чым тут можна разважаць?

Чалавек, які мае адносіны да літаратурнага працэсу, гаворыць, што пісьменнікі маюць востры дэфіцыт інфармацыі. На самай справе пісьменнік не меў, не мае і не будзе мець дэфіцыту інфармацыі. Калі гэта пісьменнік. А не графаман, не прыстасаванец-канфарміст, які выбраў складанне тэкстаў як спосаб атрымаць свой кавалак хлеба.

Калі ласка, атрымлівай. Але не блытай Божы дар з яешняй. Гаварыць трэба вось аб чым: ці ёсць перад намі асоба? Асоба — рэч самадастатковая. Яна бярэ інфармацыю ўнутры сябе, бо мае здольнасць думаць абстрактна, выстройваць шкілет дыназаўра, фігуральна кажучы, па адной костцы. Асоба гуляе на сваім полі і па сваіх правілах. Не трэба «лезть с суконным рылом в калашный ряд».

А графаману — так, неабходныя ўказанні: пра што, як, у якім святле пісаць. Інакш у яго не купяць тэксты — іншых якасцяў, апрача катэгарычнай лаяльнасці, у іх няма.

Усё зводзіцца, такім чынам, да кавалка хлеба...

●

У мяне моцнае ўражанне, што беларуская літаратура перажывае сёння комплекс Быкава. Дакладней, сіндром Быкава. Калі б гэтага чалавека не было, многія, мне чамусьці здаецца, адчулі б палёгку. Калі б яго не было ў тым выглядзе, з тымі сваімі прынцыпамі, сістэмай сваіх ідэй, характарам, светапоглядам, — многія б знайшлі абгрунтаванне свайго існавання, сваіх кніжак, сваіх выказванняў і сваіх паводзінаў.

Гэта тым больш дзіўна, таму што Быкаў не мараліст. Ён не вучыць, як жыць, што характэрна, скажам, для Салжаніцына. Быкаў выконвае сваю ролю — і толькі. Часам гэта нагадвае паводзіны разумнага бацькі ў адносінах да сына: не вучыць, а жыве ў маральным сэнсе чыста.

Быкаў проста піша аповесці. Даследуе паводзіны людзей з пункту погляду агульначалавечай маралі. Гэтым ён нязручны. Бо яго не абвергнеш. Ён дакладна ведае, што такое дрэнна, што такое добра.

А многія ў гэтым зараз заблыталіся. Асабліва майстэрства — заблытацца ў трох соснах...

●

Самая яскравая адметнасць часу зусім не фінансавы крызіс. Гэта, так бы мовіць, толькі вынік. Прычына — поўная блытаніна з арыенцірамі. У прыватнасці маральнымі.

Звычайны нармальны ўчынак выклікае ўражанне высокага подзвігу. Напрыклад, вы назвалі мярзотніка — мярзотнікам. Калі вам пасля гэтага пачынаюць тэлефанаваць і віншаваць, гаварыць, які вы мужны, прынцыповы чалавек, то, па-першае, становіцца няёмка за суразмоўцу, па-другое, міжволі задумваешся, да якой ступені задураныя мазгі ў людзей.

Проста быць прыстойным чалавекам, канешне, цяжка, але не смяротна. Кожны другі талкова можа растлумачыць, што можна, а што — не. Літаральна кожны — апраўдаць сябе, гэта ўдаецца найбольш лёгка. «На той час я сур'ёзна так лічыў», альбо: «Я не меў усёй паўнаты інфармацыі», альбо яшчэ прасцей: «Я ведаю, што раблю дрэнна, але хто будзе карміць маю сям'ю?» — варыянты могуць быць розныя.

Праз нейкі час гэтыя ж людзі будуць гаварыць: «Дурань я, паверыў...», альбо: «Ну, у кожнага бываюць памылкі...», альбо: «У душы я быў супраць...» Ну, што ж, людзі — істоты слабыя, патрабаваць з іх строга ніхто не будзе, а самі сабе яны ўсё заўсёды даруюць.

А потым знойдуць аднаго ці некалькіх вінаватых і з тым большым імпэтам стануць іх клясці і вешаць на іх усіх сабак, наколькі раней іх славілі. Усеагульны закон адплаты, пра які пісаў Шапенгаўэр.

Не ствары сабе куміра, не трэба будзе потым яго зрынаць.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**



# ХВАЛІ ЖЫЦЦЯ ВЯРНУЛІ Ў ВЁСКУ

Кожны, хто зазірне ў Голы Барок, нямала потым дзівіцца: чаму «голы»? Садам цесна за платамі, вузкая вулачка то гарэзліва звіваецца між прысад, а то ледзь не збягае да самай ракі Лясной, якая ў вёсцы — як штосьці неад'емнае накшталт агарода, двара ці лавачкі ля хаты. Вясковая дзятва заўжды мела выгоду ля рэчкі, чым выклікала немалую зайздрасць гарадскіх аднагодкаў.

Зараз у Голым Барку рэдка пачуеш дзіцячыя галасы, хіба што падчас канікулаў. Большасць жыхароў вёскі — удовыгаротніцы. Гаспадары ёсць толькі ў дзвюх-трох хатах. Аднак штораніцы вёска ажывае, з комінаў ідзе шэры дымок. Адзін раз на тыдні прыязджае сюды аўталаўка, дзе, акрамя хлеба, можна купіць сёе-тое з самага неабходнага. Абы грошы. А імі так і не здолелі разжыцца вяскоўцы — таму часцей за ўсё застаецца толькі аблашчыць вокам апетытны батон ці пругкі кружок каўбасы і вяртацца дадому з некалькімі боханамі хлеба, радуючыся таму, што сёння ён яшчэ не падаражэў.

Падзеяй для вёскі стаў пераезд у Голы Барок сям'і Анатоля Скалдзецкага. Як чалавек немітуслівы і абачлівы, гадоў дзесяць таму пачаў будавацца ён тут, мяркуючы, што якраз паспее да заканчэння тэрміну службы (ён — вайсковец). Дом будаваў у Голым Барку не на голым месцы, а на былой сядзібе свайго бацькі — на самым беразе ракі, да якой ад дома збягае ўніз сцяжынка. Служыць ён недалёка адсюль — таму і меў магчымасць у вольны час працаваць на будоўлі...

Анатоль даўно стаў памочнікам для вясковых удоў. А калі Скалдзецкія перасяліліся ў Голы Барок, дык у вёсцы нібыта пасвятлела. І не толькі ад таго, што Анатоль і Людміла самыя маладыя тут.

Два гады таму на вясковым сходзе выбіралі старасту. Адзіным кандыдатам на гэтую «пасаду» быў Анатоль. Хоць і раней да яго звярталіся па любой пільнай справе, а цяпер ідуць да Анатоля Рыгоравіча яшчэ як і да афіцыйнай асобы. А паколькі жыццё наша складаецца з дробязяў, дык даводзіцца яму і тэлевізары рамантаваць (часам вязе старэнькі «Рэкорд» у вайсковую часць, дзе яго памагаюць «лячыць» калегі па службе); і карову, расстанне з якой усё надалей адкладвае ўдава, завядзе па пільнай патрэбе па вядомаму адрасу. У гаротнай суседкі сын, бывала, зап'е так, што матулі роднай не пазнае, дык і з ім Анатоль ведае, як паразмаўляць, каб з кулакамі да маці не парываўся...

Шмат гадоў непраходнай была частка вясковай вуліцы, дзе Лясная падыходзіць да яе амаль упрытык. Каб трапіць на другі канец вёскі, трэба было перабірацца праз плот і чужымі агародамі абыходзіць непралазную гразь. Летась стараста дамогся таго, што на рамонт дарогі былі выдзелены сродкі. З год ужо, як вяскоўцы забыліся на былыя пакуты. І, несучы ў хату бярэмя дроў, добрым словам жанкі ўспамінаюць таксама Анатоля Рыгоравіча — дапамог усім, хто жадаў прывезці іх удосталь, нават грузіць тыя дровы ў машыну сам ездзіў.

Зараз у Голым Барку не нарадуюцца таму, што добра ўрадзіла бульба. І зноў-такі Анатолю ўдзячныя. Бо садзілі яе не ў канцы мая—пачатку чэрвеня, а намнога раней, таму змагла яна і адцвісці, і выспець як мае быць. Здагадаўся ж чалавек — звярнуўся па дапамогу ў вучэбна-вытворчы камбінат, які мае сваю тэхніку.

Калі надарыцца каму неадкладная справа ў Камянцы — да доктара ці па даведку, адвязе Анатоль на сваёй машыне і ні рубля грошай не возьме.

У вясковых жанок, не спешчаных жыццём і чужой увагай, нават добрае слова выклікае слёзы. Без іх не могуць гаварыць яны і пра свайго выратавальніка. Кожная з іх жадала б, каб такім быў сын, каб такімі выраслі ўнукі. І сабе, і людзям.

Скалдзецкія асталяваліся на бацькаўшчыне трывала: пасаджаны малады садок, маюць карову, іншую жыўнасць. Нават свая лодка гайдаецца на лёгкіх хвалях побач з домам. Лапік выпаленай на беразе ракі травы сведчыць пра тое, што гаспадары любяць пасядзець тут ціхім вечарам. Часам сябры-аднакласнікі з недалёкага Камянца наведваюцца. У добрых людзей гасцяваць прыемна...

У свой час Анатоль скончыў тэхнікум сувязі, што і прыдалося яму на вайсковай службе. Старэйшы сын таксама пайшоў па слядах бацькі, якому ўсё часцей даводзіцца падумваць пра пенсію. Вайсковыя людзі цяпер рана становяцца пенсіянерамі. А Анатолю толькі за сорак. І хто ведае, магчыма, з яго пачнецца адраджэнне Голага Барка. І не выпадковымі дачнікамі, а тымі, чые карані ў гэтай зямлі на беразе Лясной.

**Галіна НОВІК.**

*Камянецкі раён.*

**На здымку:** Анатоль з пляменніцай Вікай, якая жыве ў яго сям'і.

**Фота Мікалая ШУМА.**

***Хутка ўжо тры гады, як «Звязда» пісала пра сям'ю ліквідатараў-перасяленцаў з Брагінскага раёна — Рыгора Фадзеевіча Міхаленку і яго жонку Ганну Мікалаеўну Каваленка (артыкул «Пешкі» ў нумары за 30 студзеня 1996 года). Гэтыя пажылыя і хворыя людзі жывуць цяпер у вёсцы Галаўныя Ляды Бярэзінскага раёна (Багушэвіцкі сельсавет) на Міншчыне.***

***Сутнасць справы тады заключалася ў тым, што Міхаленка сапсаваў адносіны з мясцовым начальствам (і было з-за чаго, бо практычна ва ўсіх бытавых пытаннях яго чамусьці выстаўлялі «чалавекам другога гатунку»). Развязалася ж справа, як заўсёды бывае ў нашым жыцці, на карысць бюракратаў: былі зроблены пэўныя падкопы і захады, у выніку чаго Ганну Мікалаеўну хуценька (заўважце: раней як за паўгода да таго часу, калі пачалася ўсеагульная перарэгістрацыя!) пазбавілі пасведчання ліквідатара і адабралі пенсію.***

***Ганна Мікалаеўна цяпер амаль што «невыязная», бо цяжка хварэе. Рыгор Фадзеевіч, умоўна кажучы, «больш здаровы» — іншым часам выязджае на лячэнне. Скарыстаўшы выпадак, ён завітаў у рэдакцыю і зноў паклаў на стол пачак дакументаў і афіцыйных пісьмаў. Вось што гаворыцца ў адным з іх, падпісаным 11 мая гэтага года першым намеснікам старшыні Камітэта сельгасхарча Мінскага аблвыканкама Л. Русаком:***

***«Ставім Вас у вядомасць, што згодна з растлумачэннямі, дадзенымі Міністэрствам па надзвычайных сітуацыях... ільготы па артыкулу 18 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» будуць прадастаўляцца толькі грамадзянам, у якіх у пасведчанні ліквідатара ўказаны тэрмін дзеяння артыкула 18...»***

***Адначасова ў гэтым грозным пісьме прапаноўвалася мець з сабой усе неабходныя дакументы, у прыватнасці, арыгінал і копію пасведчання інваліда. Інакш...***

***Трывогу ліквідатара, які яшчэ «застаўся ў жывых», цалкам можна было зразумець. Вось жа афіцыйны дакумент-даведка аб праходжанні Р. Міхаленкам медагляду ў МРЭК (медыцынска-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі). Там чорным па беламу запісана: група інваліднасці ўстаноўлена яму бестэрмінова, г. зн. пажыццёва. І ў пасведчанні ліквідатара запісана, што яно бестэрміновае. Перарэгістрацыю ліквідатар Міхаленка прайшоў таксама.***

***І наогул, у самім Законе аб сацыяльнай абароне чарнобыльцаў нідзе не запісана аб нейкіх тэрмінах дзеяння як памянёнага, так і іншых артыкулаў заканадаўчага акта. Няўжо чыноўнікі абласнога маштабу вырашылі праявіць самадзейнасць і самастойна падправіць закон?***

***ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ ЧАРНОБЫЛЯ***

# АБ ПРАВАХ ЛІКВІДАТАРА, ПРАВАХ «ЛІШЭНЦА» І НАОГУЛ — «ПРОСТА АХВЯРЫ» ЯДЗЕРНАЙ КАТАСТРОФЫ

## *Няўжо і па сённяшні дзень справядлівасць у адносінах да ахвяр «мірнага атама» дзеліцца на першы і другі гатункі?*

А разгадка, як заўсёды, была простая. Вось тлумачэнне намесніка старшыні камісіі па выдачы пасведчанняў ліквідатара Камітэта сельгасхарча Мінаблвыканкама П. Кузьміна:

— У значнай часткі ліквідатараў дзеянне групы інваліднасці медкамісіямі вызначана толькі на пэўны тэрмін, скажам, на пяць—дзесяць гадоў, потым гэтую групу могуць і зняць. Тады з такіх асоб трэба здымаць і некаторыя льготы. Гэты тэрмін і трэба было запісаць у пасведчанні. А што напісалі ў афіцыйных пісьмах няправільныя фармулёўкі, дык гэта зусім невялікая памылка. Ці варта звяртаць увагу на такую дробязь?

Усё стала зразумелым — гэта невыкараняльны «стыль» чыноўніцкай непавагі да чалавека і грамадзяніна. Каб самім утульна сядзець у крэслах, а напалоханыя ахвяры Чарнобыля хутчэй беглі да іх у кабінеты, чыноўнікі і прыдумалі «ход» з нейкім «уяўным» абмежаваннем тэрміну дзеяння важнага артыкула закона. А навошта было сцягваць з ложкаў хворых ліквідатараў, у якіх інваліднасць пажыццёвая? На гэта наогул няма адказу.

За апошнія два з паловай гады Рыгор Фадзеевіч, як ён расказвае, пабываў на прыёме ва ўпраўленні па рабоце са зваротамі грамадзян Адміністрацыі Прэзідэнта, у Міністэрстве па надзвычайных сітуацыях (МНС), нават у «камандзіроўцы» на Брагіншчыне, дзе жыў і працаваў да чарнобыльскай катастрофы і пасля яе. Напісаў нямала пісьмаў і скаргаў у самыя высокія інстанцыі. Міхаленка і не хавае, што робіць усё гэта дзеля аднаўлення добрага імя яго жонкі Ганны Мікалаеўны.

Аднак што пацягнула яго ў Брагінскі раён? Вось як тлумачыць сітуацыю сам Рыгор Фадзеевіч:

— У выніку маіх заяў і хаджэнняў мяне накіравалі да супрацоўніцы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях (яе прозвішча, на жаль, не помню). Мне сказалі: неабходна мець камандзіровачныя пасведчанні, якія выпісваліся маёй жонцы ў 1986 годзе, копіі квітанцый дагавораў на страхаванне, якія яна тады заключала. Толькі тады і можна будзе нешта вырашаць. У Брагінскай жа райінспекцыі страхавання на мяне паглядзелі як на дзівака: няўжо ў міністэрстве сядзяць такія наіўныя людзі, што не ведаюць простай рэчы — падобныя дакументы захоўваюцца толькі тры гады. Дзе і якія копіі цяпер браць? І як расцэньваць пазіцыю ўсёведных чыноўнікаў з міністэрства ў адносінах да мяне? Ды і не толькі да мяне?

Тут у самы раз напомніць: на пачатку перарэгістрацыі ліквідатараў бадзёра паведамлялася, што ўсе арганізацыі папярэджаны аб неабходнасці захаваць першапачатковую дакументацыю, што існуе асаблівы (?) парадак яе захоўвання на працягу... 75 гадоў. Што засталося ад гэтых заяў і дакументаў? Нічога, каб Ганна Каваленка і яе муж змаглі даказаць сваю праўду. У выніку Г. Каваленка і атрымала з МНС пісьмовы адказ: «... Мінскім аблсельгасхарчам Вам абгрунтавана адмоўлена ў перарэгістрацыі пасведчання ўдзельніка ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС».

* * *

Паспрабуем на нейкі час пагадзіцца з тым, што ўсё ў адносінах да ліквідатара-«лішэнца» зроблена абгрунтавана. І прывядзём прагучаўшы ўжо расказ таго ж П. Кузьміна:

«Дзяўчына-школьніца, якая пражывала ў Хойніцкім раёне, 27-28 красавіка 1986 года разам са сваім дзесятым класам паехала перабіраць бульбу (быў выдадзены і загад аб вызваленні школьнікаў ад заняткаў у сувязі з накіраваннем іх на палявыя работы).

Калі потым паўстала пытанне аб выдачы дзяўчыне пасведчання ліквідатара, то спачатку мы ў аблсельгасхарчы ёй у гэтым адмовілі: сапраўды, што гэта за «ліквідацыйныя работы» — перабіранне бульбы? Якія з падлеткаў ліквідатары? Аднак бацька тагачаснай школьніцы (уплывовы бацька! — **Аўт**.) з гэтым не пагадзіўся.

У тагачасным Дзяржкамчарнобылі глянулі — падобныя выпадкі ў Законе аб сацыяльнай абароне пацярпелых ад Чарнобыля не адлюстраваны. Нам, аднак, сказалі: рыхтуйце дакументы на міжведамасную камісію. У выніку пасведчанне ліквідатара дзяўчыне выдалі. І потым мы гэтае пасведчанне на законных падставах перарэгістравалі».

На «законных» падставах? Не адлюстраваных у законе?

У даведках Ганны Каваленка, што калісьці былі выдадзены Брагінскім райсаветам, сцвярджаецца, што ў перыяд аварыі на ЧАЭС яна працавала страхавым агентам па абслугоўванню грамадзян у вёсках Астраглядаўскага сельсавета, некаторыя з якіх адносіліся нават да зоны эвакуацыі! Усім вядома, што гэта была за «зона». Амаль дзесяць страшных дзён, не ведаючы аб небяспецы, па забруджаных ядзерным пылам дарогах дабіралася з вёскі ў вёску, абмярала нашпігаваныя цэзіем і стронцыем дамы.

Вядома ж, зрабіла ва ўмовах радыяцыі куды больш, чым тая ж дзесяцікласніца. Аднак сціплую перабіральшчыцу бульбы ўзносяць (можа, і па заслугах?) на п'едэстал ліквідатара, а ў пажылой жанчыны, знявечанай Чарнобылем, гэтае званне адбіраюць. А што зробіш? З аднаго боку — уплывовы і актыўны бацька, а з другога — сям'я небаракаў, якіх пільна адсочваюць «пакрыўджаныя» бюракраты.

Дык што, і цяпер пагадзіцца з тым, што і ў адным, і ў другім выпадку ўсё зроблена «абгрунтавана»?

... Рыгор Міхаленка і па сённяшні дзень імкнецца дайсці да сутнасці справы з пазіцый звычайных чалавечых параўнанняў і здаровага сэнсу. Цяжка што-небудзь запярэчыць яму, калі ён дае «гарачую» інфармацыю (прозвішчы названых ім чарнобыльцаў-перасяленцаў апускаем, але яны захоўваюцца ў рэдакцыі):

— Супрацоўнікі Брагінскай райінспекцыі страхавання, як і мая жонка, атрымлівалі пасведчанні ліквідатараў на падставе даведак, выдадзеных самой інспекцыяй і зацверджаных старшынёй райсавета. Практычна ўсе яны прайшлі перарэгістрацыю і засталіся ліквідатарамі. Магу пералічыць: страхавыя агенты Р.В. і Р.П., Р.Н. і Л.В., намеснік начальніка інспекцыі П.А. і некаторыя іншыя. Здавалася б, даведкі былі аднолькавыя, а лёсы ў людзей — якія розныя. Хто б растлумачыў, чаму так робіцца?

Аб'ектыўнасць вымагае сказаць: побач з гэтай праўдай, аказваецца, існуе і другая. Зрэшты, яе лепш было б назваць толькі халоднай канстатацыяй сітуацыі на нашым неўпарадкаваным чарнобыльскім полі. Сітуацыі, як ужо можна бачыць, яўна двухсэнсавай.

* * *

Галоўны спецыяліст МНС Іван Драко — чалавек даволі адкрыты. Дыялог паміж ім і аўтарам артыкула ў скарочанай рэдакцыі выглядае наступным чынам:

— Парадак прыняты такі: калі чалавек не згодны з рашэннем ведамаснай камісіі, то ён мае права звярнуцца ў міжведамасную камісію пры МНС — і яе рашэнне з'яўляецца канчатковым. Як і многія іншыя, Ганна Каваленка гэтае права выкарыстала.

На чарговым пасяджэнні міжведамаснай камісіі 30 чэрвеня 1996 года была зроблена выснова: пагадзіцца з рашэннем камісіі Мінскага аблсельгасхарча аб адмове Каваленка Г. М. у перарэгістрацыі пасведчання ліквідатара. Выпіскі з гэтага пратакола паслалі ёй і ў Мінскі аблсельгасхарч. У той раз адмовілі ў перарэгістрацыі па аблсельгасхарчу ўсяго сямі грамадзянам.

Не зусім прыемна гаварыць гэта чалавеку, але сказаць трэба: спачатку статус удзельніка ліквідацыі наступстваў катастрофы на ЧАЭС Ганне Каваленка ў аблсельгасхарчы быў прысвоены неабгрунтавана; там, можна сказаць, пралічыліся.

— А як жа з той дзяўчынай, што перабірала бульбу? Яна таксама ліквідатар?

— Магчыма, ведамасная камісія і тут схібіла. Аднак трэба сказаць, што маецца спецыяльнае пісьмо-растлумачэнне N 369 ад 2 жніўня 1991 года (адпаведнай Камісіі былога Вярхоўнага Савета), дзе сказана, што грамадзяне, якія ў 1986 годзе жылі ў 30-кіламетровай зоне і выконвалі сельгасработы (даецца іх пералік), прызнаюцца ліквідатарамі. Можа на гэтай падставе тую школьніцу і прызналі ліквідатарам?

— Але ж Хойнікі далёка ад 30-кіламетровай зоны.

— Тады з гэтым выпадкам трэба разбірацца спецыяльна.

— Як быць, Іван Аляксандравіч, з тымі асобамі, якіх пералічвае той жа Міхаленка? Выконвалі ў дні катастрофы такую ж работу, але ліквідатарамі засталіся.

— Калі скаржнік перадае інфармацыю правільна, то выснова тут можа быць толькі адна: і тым асобам раней выдавалі пасведчанні ліквідатара неабгрунтавана, такім жа чынам яны «прайшлі» і перарэгістрацыю. Службовых асоб, якія прымалі падобныя рашэнні, неабходна прыцягваць да адказнасці, для чаго наяўныя матэрыялы трэба перадаваць у следчыя органы.

Дам яшчэ адну даведку — для тых, хто незадаволены рашэннем міжведамаснай камісіі пры МНС. З усімі дакументамі, якія ў іх ёсць па сваёй справе, з нашымі выпіскамі яны маюць права звярнуцца ў суд для канчатковага вырашэння свайго пытання. Ці па месцы свайго жыхарства, ці па месцы размяшчэння міжведамаснай камісіі пры МНС (г. зн. у нарсуд Цэнтральнага раёна г. Мінска). Заўважу, што Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь па гэтым пытанні даў мясцовым судам спецыяльнае растлумачэнне.

У канцы аўтар, ужо ад сябе, таксама мусіць сёе-тое дабавіць. Маюцца ўжо выпадкі, калі суды выносяць станоўчыя рашэнні на карысць тых, хто прэтэндуе на статус ліквідатара. Іншы раз прымаючы пад увагу і паказанні сведак.

* * *

Ці будуць падаваць у суд Ганна Каваленка і яе муж? Рыгор Фадзеевіч настроены скептычна:

— Дык бюракраты ж суд і выйграюць. Можа, лепш выйсці на прадстаўніцтва ААН у Беларусі, расказаць, як дастаюцца нам «правы ліквідатара»? Хадзіць па судах, некуды ездзіць — гэта патраціць апошнія грошы і апошняе здароўе, якога і так няма. Летась, напрыклад, доўга ляжаў у райбальніцы, паехаць па пуцёўцы на аздараўленне ніяк не мог. Напісаў заяву на кампенсацыю за нявыкарыстаную пуцёўку, своечасова пераправіў яе ў аддзел сацабароны райвыканкама. А потым мне званяць: вам, маўляў, кампенсацыя не належыць! Зацягнулі надуманую «справу» аж да канца сёлетняга сакавіка. Думаеце, гэтыя здзекі дабаўляюць здароўя? А ў якія суды можа ездзіць жонка? Ёй жа зрабілі аперацыю з нагоды рака шчытападобнай залозы — палову выдалілі. Затое ёсць мноства здаровых — і ўсе яны, ці бачыце, «ліквідатары»!

Так, цяпер Ганна Мікалаеўна цяжка хворая, знаходзіцца на анкалагічным уліку. Вось яна, цана яе «звычайнай работы» ў дні ядзернай катастрофы! Да асноўнага чарнобыльскага закона «прыліпаюць» усялякія растлумачэнні ды ўказанні — і ні пад адно з іх Ганна Каваленка «не падыходзіць». Гэта воля лёсу? Ды не — воля «пакрыўджанага» чыноўніка.

* * *

Аднак ці заўважыў чытач, колькі прамільгнула ўжо розных афіцыйных пісьмаў-растлумачэнняў, ведамасных распараджэнняў, іншых падзаконных актаў, якія значна мяняюць сутнасць Закона аб сацыяльнай абароне чарнобыльцаў? А ці ўнесены яны ў тэкст закона тым жа законным парадкам? Вось жа і яно...

Між тым, сапраўды неабходных змяненняў, якія даўно дыктуюцца новымі жыццёвымі рэаліямі, у Законе аб сацыяльнай абароне пацярпелых ад Чарнобыля няма і няма. Ёсць, аднак, на гэты конт нямала разумных прапаноў, аднак дэпутацкі корпус маўчыць.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

# КІРМАШ



## ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

**№ 43 (161)**


## РОЗНАЕ

■ Куплю «МТЗ-80» (82) б/к. *Тэл. (8-017) 251-06-48*

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру ў Севастопалі на кватэру ці дом у Мінску або прыгарадзе. *Звяртацца: 223239, Мінская вобл., Чэрвеньскі раён, п/а Шасцісночы, Юшко Е.*

■ Куплю старыя фотаапараты, мікраскоп, авіягадзіннік, значкі. *Тэл. 253-24-41*

■ Мяняю 2-пакаёвую кватэру з усімі выгодамі ў Кіраўску на Гродна, Магілёў, Асіповічы. *Тэл. (8-02237) 2-28-37*

■ Куплю адна- або двухпакаёвую кватэру ў Лунінцы. *Тэл. (8-01647) 7-83-49*

■ Куплю «МТЗ-82» б/к або памяняю на л/аўтамабіль. *Тэл. (8-017) 258-34-64*

■ Грузаперавозкі да 25 тон (76 куб.м) па СНД і Беларусі, ліцэнзія N 1-4770 да 2003 г. *Тэл. у Мінску 273-48-26*

■ Патрабуюцца паслугі ксеракапіравання. Уся інфармацыя ў паштоўцы: *246028, г. Гомель, а/с 149*

■ Мяняю 1-пакаёвую кватэру ў Мінску і драўляную (з усімі выгодамі) дачу ў маладзечанскім напрамку на 2-пакаёвую кватэру ў Мінску. *Тэл. у Мінску 252-78-47*

■ Куплю старыя ўзнагароды, значкі, манеты, паштовыя маркі, банкноты, старадаўні посуд і вайсковую форму. *Тэл. 255-15-23*

■ Вазьму спадарожнікаў за аўтамабілямі на нямецкую граніцу, да радні. *Тэл. у Валожынскім раёне 8-52-90, пасля 19.*

■ Куплю паперу фармату А4, А3; мыла гаспадарчае; выканаю ксеракапіраванне (min 300 копій). *Тэл. 253-92-26*

■ Прадам трактар «Т-40» або памяняю на л/а. *Тэл. у Бярэзінскім раёне 5-86-86, з 21 да 23*

■ Куплю «ЗАЗ-968 М» на хаду (да 100 у.а.). *Тэл. у Мінску 279-83-80, пасля 19.*

■ Куплю газавую пліту новую (пажадана 50х50). *Тэл. у Мінску 246-40-28*

**Куплю мотаблок МТЗ.**
**Тэл. (8-017) 271-62-19.**

Згубленае пасведчанне інваліда серыі 08 № 0021571, выдадзенае на імя **АКУЛІЧ Іны Уладзіміраўны,** лічыць **несапраўдным.**

Згубленае пасведчанне інваліда III групы серыі 08 № 0032764, выдадзенае на імя **СТАРЫНКА В. С.**, лічыць **несапраўдным.**

Згубленае пасведчанне ўпраўлення юстыцыі Мінгарвыканкама, выдадзенае на імя **СВІЛЮК Ларысы Анатольеўны,** лічыць **несапраўдным.**

## З Новым годам, гомельскія аўтарамонтнікі!

Гэтае віншаванне зусім не жартоўнае, бо калектыў аўтарамонтнага завода бадай што першым у вобласці і сваёй галіне паспяхова завяршыў гадавую праграму. Прычым, адна цікавая дэталь: сёлета ён тройчы пераглядваў яе ў бок павелічэння. І яшчэ. У канцы снежня прадпрыемства выходзіць на аб'ёмы вытворчасці самага выніковага 1990 года. І калі ў дырэктара яго Аляксандра Малахава пытаюць, як гэта ўдалося, ён звычайна адказвае: стараемся працаваць, шукаем рэзервы. І гэта сапраўды так.

Аляксандр Уладзіміравіч узначаліў завод у самым крызісным для яго 1993 годзе, і ўжо праз 12 месяцаў тут былі праведзены маркетынгавыя даследаванні рынку аўтобусарамонтных паслуг. І ў выніку калектыў прыйшоў да высновы: каб выжыць, трэба зрабіць стаўку на распрацоўку і ўкараненне прынцыпова новай тэхналогіі аднаўленчага рамонту аўтобусаў «ЛАЗ» і «Ікарус», якая прадугледжвае выраб і замену асновы кузава аўтобусаў. І калі яе пачалі ўкараняць, заказчыкі пажадалі, каб, напрыклад, афарбоўка кузаваў рабілася па французскай тэхналогіі эмалямі нізкатэмпературнай сушкі, а бакавыя панелі і элементы кузаваў «Ікарусаў» — з ацынкаванага ліста, каб аўтобусы аснашчаліся айчыннымі дызельнымі рухавікамі, а ў «Ікарусах» устанаўліваліся свяцільнікі люмінісцэнтнага асвятлення і г. д.

Новая тэхналогія рамонту і яшчэ цэлы шэраг новых тэхналагічных працэсаў да яе і адыгралі рашаючую ролю ў рэзкім паляпшэнні якасці рамонтных работ, якія да таго ж вызначаліся і дастаткова нізкім іх коштам. Гэта і дапамагло сфарміраваць у аўтатранспартных прыдпрыемстваў рэспублікі як устойлівы, так і ўзрастаючы попыт на аўтобусарамонтныя паслугі і прадукцыю завода.

Вось дынаміка рамонту аўтобусаў: у 1996 годзе — 161, 1997-м — 197, 1998-м — 256. Апошняя лічба — гэта план, які, паўтараем, ужо завершаны. А да канца года яшчэ, лічыце, больш як два месяцы, а за кожны месяц завод рамантуе 25—26 аўтобусаў як для Гомельшчыны, так і для Магілёўшчыны, Брэстчыны і Мінска. Павелічэнне заказаў, вядома ж, суправаджаецца наборам новых рабочых, якіх сёлета на прадпрыемства прыйшло 60 чалавек. А заказы, між тым, растуць і растуць. На сённяшні дзень завод мае ўжо 580 заявак на рамонт аўтобусаў у будучым годзе. Значыць, работы яму хопіць. Завод паспяхова супрацоўнічае з бранскімі аўтарамонтнікамі, з якімі ён арганізаваў сумеснае прадпрыемства і сёлета вёў перамовы з аўтобуснымі прадпрыемствамі Адэсы, Кіева, Арла і Калугі наконт супрацоўніцтва з імі. Зрабіў ён прарыў і на венгерскі рынак, паставіўшы туды дзве асновы кузаваў «Ікаруса». І, каб забяспечыць патрэбнасці галіны ў аднаўленчым рамонце аўтобусаў, ён па кааперацыі развівае яго (рамонт) на брэсцкім і барысаўскім аўтарамонтных, Магілёўскім доследна-эксперыментальным і Гомельскім суднабудаўніча-суднарамонтным заводах. Гэта значыць, што ён працуе сам і дае работу іншым. Ці кожнае прадпрыемства можа пахваліцца гэтым?

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ПРАДАЕЦЦА

■ Дом і піяніна ў в. Вішнева Валожынскага раёна. *Тэл. 4-46-99, Бітэль.*

■ «ВАЗ-2121» («Ніва») 1990 г.в., прабег 75 тыс.км, у добрым стане. *Тэл.: (8-02157) 2-45-10, 2-44-37*

■ Катэр «Обь», рухавік «Вихрь-25», радыятары ацяпляльныя б/к *Тэл. у Мядзелі 4-64-10*

■ «ВАЗ-2105» 1987 г.в., газ/бензін, 1800 у.а., торг; крылы заднія, шкло лабавое да «М-412» (новыя) і інш. з/ч да л/а М-408, -412. *Тэл. у г. Валожыне 5-80-04*

■ Трактар «Т-25» з навясным абсталяваннем і прычэпам. *Тэл. (8-017) 251-06-48*

■ «Форд-Сіера» 1987 г.в., 2 л, седан, спартыўнага выгляду, літыя дыскі, сігналізацыя, 3200 у.а., торг. *Тэл. (8-02235) 2-78-90*

■ Тэрмінова дом у в. Беразнякі Калінкавіцкага раёна, г/пабудовы, сад, участак 30 сотак. *Тэл. 4-13-86, 4-13-95*

■ «Сітраен-ВХ19» 1985 г.в., дызель, люк, 5-КПП, шклопад'ёмнік. *Тэл. у Мядзелі 5-90-42*

■ Лекавая трава ісоп. *Тэл. у г. Ліда 2-17-92*

■ Пагрузчык ПГ-0,3 да трактара «Т-16М». *Тэл. у Ст. Дарогах 5-53-29, пасля 18*

■ Сучка пароды такса і пароды эрдэльтэр'ер — 50 і 100 у.а.; шчанюкі пароды эрдэльтэр'ер — 25 у.а. *Тэл. у Жлобіне 9-64-55*

■ «Таўрыя» 1990 г.в. і з/часткі. *Тэл. у г. Дзяржынску 6-47-18, раніцай з 8 да 9*

■ «ВАЗ-21074» 1996 г.в., 1,6 л, цана па дамоўленасці. *Тэл. у Новалукомлі (8-02133) 3-74-46*

■ «VW-Пола» 1984 г.в., бензін, 4 л/100 км, белы, у выдатным стане, 2500 у.а. *Тэл. у Валожыне 5-82-90*

■ Дом у Лунінецкім раёне, маюцца г/пабудовы, рака. *Тэл. у Капыльскім раёне 4-72-41*

■ «ВАЗ-2105» 1981 г.в. у выдатным стане — 1400 у.а.; дызельны 4-цыліндравы рухавік да «ГАЗ-51 (52)» — 400 у.а. *Тэл. у Докшыцкім раёне 2-40-64*

■ Трактар самаробны, дызель, 30 к.с. *Звяртацца: 247986 Жыткавіцкі раён, в. Рыдча, Дубіна М.*

■ «ВАЗ-2101» 1974 г.в. у добрым стане, на ходу. *Тэл. у г. Мінску 590-46-49*

■ Трактар самаробны; «ВАЗ-2106» 1978 г.в., капрамонт у 1998 г., у добрым стане. *Тэл. у Навагрудку 3-08-54*

■ Катэдж з г/пабудовамі, участак, тэлефон у в. Пескаўцы. *Тэл. у Гомелі 97-12-75, у Лідзе 76-3-38*

■ «Масквіч-412», у добрым стане, без дакументаў, 300 у.а. *Тэл. у Валожыне 5-52-25*

■ «VW-Джэта-1» 1983 г.в., 1,3 л, цана па дамоўленасці. *Тэл. у Валожыне 5-84-49*

■ Плуг, культыватар, раскідвальнік «РОУ-6», нядорага. *Тэл. у г. Глыбокае 2-31-97*

■ Кватэра 2-пакаёвая ў 4-кватэрным доме, маецца зямельны ўчастак. *Тэл. у Капылі 5-00-27, пасля 18.*

■ Помнік з падстаўкай, граніт габро чорны. *Тэл. у Капылі 5-46-10*

■ TV-антэны са 100—1000-кратным сілкаваннем. *Тэл. у Мінску 224-69-42*

■ «Опель-Кадэт», дызель, 1986 г.в., 1,6, л, шэры металік, 2200 у.а. *Тэл. у Смалявічах 5-47-93, Юра*

■ Кватэра 4-пакаёвая ў г. Талачыне Віцебскай вобл., 8500 у.а., маецца ўчастак. *Тэл. (8-02136) 2-10-60*

■ «МТЗ-80 УК» 1991 г.в., новы. *Тэл. (8-017) 258-34-64*

■ «ВАЗ-21013» 1982 г.в., белы, у выдатным стане, 1300 у.а., у *в. Засвір, д.8, Мядзельскага раёна, Кісель С.Ф.*

■ Пліта газавая «Брэст-1457», белая, новая, 110 у.а. *Тэл. 213-30-20*

■ «Опель-Аскона», бензін, 1,6 л, 1984 г.в., 5-дзверны, з Германіі, растаможаны, 2200 у.а., торг. *Тэл. у Паставах 2-13-78*

■ Аўтамабіль «КрАЗ-254Б». *Тэл. у Капылі 5-03-57*

■ Кватэра 3-пакаёвая ў Мядзелі. *Тэл. (8-01797) 5-57-48*

■ Тэрмінова цагляны дом у в. Баранавічы Карэліцкага раёна з усімі выгодамі, маецца гараж, г/пабудовы і інш., нядорага. *Тэл. у Навагрудку 2-36-10*

■ Зруб 7Х5 («чысты вугал») у *Віцебскай вобл., Ушацкі раён, в. Белае. Тэл. 2-61-48; Каваленка*

■ Дом з г/пабудовамі, участак 12 сотак у г.п. Наваельня Дзятлаўскага раёна. *Тэл. у Мінску 258-39-45; У Наваельні 43-8-41*

■ Палова цаглянага дома, водаправод, гараж, агарод, цэнтр. *Тэл. у Вілейцы 5-41-53, пасля 19.*

■ «ВАЗ-2101» 1980 г.в., 1,3 л, патрэбен рамонт кузава (ёсць жалеза новае, фарба), 1000 у.а. *Тэл. 213-30-20*

■ «Рэно-21», бензін, 1,7 л, зялёны металік, 1987 г.в., цэнтральны замок, шклопад'ёмнік, 2200 у.а. *Тэл. у Смалявічах 5-47-93*

■ «Аудзі-80», дызель, 1986 г.в. тэл. у Слуцку 2-07-86, пасля 18. Жарэбка, узрост 7 месяцаў *Звяртацца: Дзяржынскі раён, ст. Негарэлае, в. Мелькавічы, Гаркун А.*

■ «ВАЗ-2107» 1985 г.в. у выдатным стане. *Тэл. у Смаргоні 3-18-34, пасля 19*

■ Дом з г/пабудовамі ў Лагойскім раёне. *Тэл. у Лагойскім раёне 5-92-37, па суботах з 13 да 14.*

■ «Опель-Аскона» люкс, 1983 г.в., карбюратар, 1,3 л, патрэбна афарбоўка кузава, 1100 у.а. *Тэл. у Ваўкавыску 3-20-87*

■ Дом у г. Барысаве, вул. Лазо, 25. Маецца гараж, г/пабудовы, агарод, сад. *Тэл. 2-22-66*

■ «ВАЗ-2101» бэжавы, 1986 г.в., у выдатным стане, 145 тыс. км прабег, 1550 у.а., торг. *Тэл. у Докшыцкім раёне 2-49-00 пасля 18*

■ Лес, абпілаваны на 14, на зруб 7Х9, дошкі 25 мм, кроквы (нядорага). *Тэл. У Клецкім раёне 4-37-08, пасля 19*

■ Карова чырвонай пароды, аплата ў СКВ. *Тэл. у Мядзельскім раёне 3-31-12*

■ «ВАЗ-2101» 1975 г.в. з Германіі або памяняю на трактар «Т-25» ці «МТЗ». *Тэл. у Валожынскім раёне 3-24-28, пасля 18*

■ Дом у г. Ваўкавыску, маецца гараж, г/пабудовы, водаправод, газ. *Тэл. у Ваўкавыску 3-20-87*

■ «МТЗ-50», 1500 у.а., у Віцебскай вобл. *Тэл. (8-02136) 2-28-67*

■ Аўтамабіль «ІЖ-27156» грузапасажырскі, 1991 г.в. *Тэл. у Клецкім раёне 3-32-89*

■ «Форд-Эскорт», дызель, 1,6 л, 1988 г.в., белы, 4-дзверны, 3600 у.а. *Тэл. у Валожыне 5-82-90, пасля 19*

■ «VW-Пасат» 1986 г.в., бензін, у добрым стане, растаможаны. *Тэл. у Стаўбцоўскім раёне 3-83-08*

■ Дом з г/пабудовамі, участак 40 сотак у Лагойскім раёне (30 км ад Мінска). *Тэл. (8-274) 5-43-66, пасля 17*

■ «ГАЗ-24», чорны, газ-бензін, 1977 г.в. *Тэл. у Вілейцы 4-63-57, пасля 19*

■ «ВАЗ-2103», бэжавы, 1981 г.в., 2 гады з ФРГ, гума новая, 1500 у.а., торг. *Тэл. у Ляхавічах 5-62-98 з 20.*

■ Рухавік «ГАЗ-24» на з/ч, оптам. *Тэл. у Любані 5-60-53*

■ Вялікі дом у г. Хойнікі, маецца сад, гараж, г/пабудовы, або абмяняю на кватэру. *Тэл. (8-01592) 3-63-92*



## Асабістае жыццё

**Аб. 892.** Андрэй, 26/176/80, пазнаёміцца з дзяўчынай для стварэння сям'і. Пажадана фота, якое абяцаю вярнуць (Любанскі раён).

**Аб. 893**. Добразычлівы энергічны ўдавец без ш/звычак і праблем пазнаёміцца з жанчынай 48—52 гадоў для стварэння сям'і (г. Мінск).

**Аб. 894**. Пазнаёмлюся з дзяўчынай 18—21 гадоў для сяброўскай перапіскі. Аб сабе: Вячаслаў, не куру, не п'ю, 18/170/65. Калі ласка, фота.

**Аб. 895**. Маладая сімпатычная жанчына, 25/165/50, пазнаёміцца з добрым мужчынам да 33 гадоў без ш/звычак для стварэння сям'і. Пажадана фота, якое вярну. Згодна на пераезд (Петрыкаўскі раён).

**Аб. 896.** Інвалід І групы, 37 гадоў, жадае пазнаёміцца з жанчынай 30—40 гадоў, якая захоча падзяліць разам са мною ўсе радасці і надзеі гэтага жыцця (Кобрынскі раён).

**Аб. 897.** Ірына, спакойная, жыццелюбівая жанчына 31 год, не п'ю, не куру, люблю музыку і хатнюю ўтульнасць, маю траіх дзяцей. Жыву ў вёсцы, маю свой дом, гаспадарку. Жадаю сустрэць добрага гаспадара і чалавека, для якога дзеці не будуць перашкодай, каб толькі не злоўжываў спіртным, валодаў пачуццём гумару. Мне можна патэлефанаваць (08-01647) 97-3-28 увечары. Адрас у рэдакцыі.

**У АДРАС «АСАБІСТАГА ЖЫЦЦЯ» ПРЫЙШЛО ТАКОЕ ПІСЬМО...**

*...Дзякуючы «Асабістаму жыццю» я сустрэла чалавека, з якім хачу звязаць сваё жыццё. Магчыма, хутка мы ўзаконім нашы адносіны і будзем жыць адной сям'ёй. Гэта неабходная рубрыка у газеце, я ўпэўнена, што такім шляхам не адзін чалавек уладкаваў сваё жыццё і забыў, што такое адзінота...*

***З павагай Л. Л. С.***

**P. S.** Шчыра дзякуем за цёплыя водгукі аб нашай рубрыцы.

## ВІНШАВАННІ

*Дарагія* ***Ала Васільеўна*** *і* ***Мікалай Васільевіч ЛЯШКЕВІЧЫ.*** *Шчыра віншуем вас, любыя нашы тата і мама, з сярэбраным вяселлем.*

Хай Бог даруе вам здароўя
І шчасцем светлым не абдзеле.
З надзеяй, верай і любоўю,
Без страху ў заўтра каб глядзелі.

**Дачка, сын, нявестка, г. Мінск.**

*Віншуем дарагую любімую бабулю* ***Праскоўю Андрэеўну ПІКУЗА*** *з 60-годдзем.*

Жадаем хваробы не ведаць ніколі,
Пражыць год да сотні,
А можа і болей,
У добрых клопатах і душэўным спакоі.

**Дзеці, унукі,** *г. Мазыр.*

*Віншую з днём нараджэння* ***Алену Фёдараўну БАГЛЕЙ*** *з в. Голацк. Жадаю шчасця, поспехаў у жыцці, вялікага кахання, радасці.*

**Андрэй.**

*Віншуем з 60-годдзем* ***Міхаіла Майсеевіча ГУБАШЫНА*** *(в. Церабуты). Жадаем здароўя, бадзёрасці.*

Не для славы, а для справы
будзь на многія гады,
Хоць калючы, ды ласкавы,
хоць сівы, ды малады.

**Жонка, дзеці, унукі.**

*Шчыра віншуем з днём нараджэння самага найлепшага ў свеце бацьку і мужа* ***Уладзіміра Яфімавіча РАДКОВІЧА.*** *Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў у працы, радасці ў жыцці.*

**Дочкі, жонка,** *г. Кобрын.*

*Дарагога, любага татачку і мужа* ***Пятра Вікенцьевіча ГУБАРА*** *віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, дабра і шчасця.*

**Дзеці, жонка, унучка,** *в. Вензавец.*

***Аляксандра і Марыну ФІЛІНОВІЧАЎ*** *віншуем з нараджэннем дачкі. Жадаем здароўя, любові, шчасця. Малайцы!*

**Калегі,** *г. Лунінец.*

*Віншуем з 40-годдзем* ***Алену Іосіфаўну КАСКО*** *з в. Новы Двор Мінскага раёна. Жадаем здароўя, шчасця, сямейнага дабрабыту.*

**Сям'я Пакладок.**

*Дарагога тату* ***Віктара Уладзіміравіча ДЗЕМІЧАВА*** *віншуем з днём нараджэння.*

«Пусть солнца луч растопит
все невзгоды,
Пусть хоть на миг забудутся дела,
А мы желаем счастья на все годы,
Здоровья и житейского тепла».

**Дзеці, родныя,** *г. Клецк.*

*Віншуем з 50-годдзем* ***Уладзіміра Вікенцьевіча ДУДКО*** *з в. Задвор'е Мастоўскага раёна. Жадаем здароўя на доўгія годы, каб стомы не знаў ад жыццёвай дарогі.*

**Родныя,** *в. Гудзевічы.*

*Віншуем з днём нараджэння зяця* ***Вячаслава Антонавіча ЗЯНЬКО.*** *Жадаем здароўя, удачы, жыць — не тужыць, да ста год дажыць.*

**Цесць, цешча,** *в. Макорычы.*

# ТРАНС У ПРЫГОЖАЙ «УПАКОЎЦЫ»,

## альбо Урокі аднаго набажэнства

***На пачатку жніўня сёлетняга года ў Гродне з'явіліся афішы, якія запрашалі ўсіх жадаючых у палац культуры «Юнацтва» на сустрэчу з амерыканскімі місіянерамі абшчыны Хрысціян поўнага Евангелля «Жывое слова». Арганізавалі яе члены мясцовай суполкі ХПЕ. Само сабой, рэклама сцвярджала, што намеры ў гасцей самыя высакародныя: Бог, вера, чысціня душы. І пры гэтым ніякай камерцыі, паколькі ўваход на набажэнства бясплатны.***

**12** жніўня місіянеры (16 чалавек) прыехалі ў горад над Нёманам па групавой турыстычнай візе, і назаўтра адбылося першае набажэнства. На яго ў зале Палаца культуры сабралася каля 150 чалавек самага рознага ўзросту, прыкладна палову з якіх складала 25—30-гадовая моладзь. Цяжка сказаць, наколькі задаволіла прапаведнікаў такая колькасць слухачоў і ці павялічылася б яна ў далейшым, бо першае набажэнства амерыканцаў на гродзенскай зямлі аказалася і апошнім. Па хадайніцтву Савета па справах рэлігій Гродзенскага аблвыканкама органы ўнутраных спраў скарацілі тэрмін знаходжання місіянераў на тэрыторыі нашай краіны. Ім ветліва, але настойліва прапанавалі пакінуць яе. І што характэрна, пасля гэтага не разгарэўся міжнародны скандал, не пачулася гучных заяў пра ціск на дэмакратыю і свабоду веравызнання. Місіянеры, па інфармацыі праваахоўных органаў, асабліва не абураліся, даволі спакойна ўспрынялі забарону на сваю далейшую работу ў Гродне, бо яны разумныя людзі і цудоўна ведаюць, што адпаведны дазвол на рэлігійную дзейнасць — гэта зусім не беларускі «капрыз», а агульнапрынятыя нормы. Такога дазволу чужаземцы не мелі, і таму вышэйпамянёнае набажэнства ў палацы культуры «Юнацтва» было незаконным.

Але гэта толькі адзін бок справы. Другі, не менш сур'ёзны, звязаны непасрэдна з ходам гэтага набажэнства. Аказалася, што місіянеры з берагоў Патамака выкарыстоўваюць спецыяльныя метады псіхалагічнай апрацоўкі веруючых. На думку загадчыка кафедры псіхатэрапіі і медыцынскай псіхалогіі Гродзенскага дзяржаўнага мядінстытута, доктара медыцынскіх навук, прафесара А. Каралёвай, асістэнта гэтай кафедры В. Карпюк і загадчыка кафедры псіхіятрыі ГрДМІ, кандыдата медыцынскіх навук дацэнта С. Обухава, якія вывучылі відэазапіс набажэнства, «прысутныя ў зале ўводзіліся ў зменены стан свядомасці (транс), што магло справакаваць псіхічныя расстройствы і нанесці шкоду іх здароўю. Выкарыстоўваць такія метады маюць права толькі асобы са спецыяльнай падрыхтоўкай у галіне псіхатэрапіі пры ўмове папярэдняй згоды з боку суб'екта ўздзеяння».

Наколькі ўмела з пункту гледжання ўплыву на чалавечую псіхіку дзейнічалі гэтыя місіянеры? Даволі прафесійна, лічыць Алена Каралёва. Набажэнства можна падзяліць на дзве часткі. Спачатку, гадзіны паўтары, доўжылася падрыхтоўчая работа (выступленні прапаведнікаў, калі быццам бы ўсё нармальна), а затым пачалося само ўнушэнне з больш індывідуальным падыходам да прысутных у зале. Два-тры прапаведнікі браліся за аднаго чалавека і ў выніку ён уводзіўся ў стан трансу. Каб «кліент» не ўпаў, яго падтрымлівалі ззаду.

Па словах некаторых удзельнікаў гэтага набажэнства, якое нагадвала сеанс масавага гіпнозу, іх на сустрэчу з амерыканскімі місіянерамі прывялі не столькі рэлігійныя пачуцці, колькі звычайная цікаўнасць, жаданне на свае вочы пабачыць тое, чаго яны раней яшчэ не бачылі.

Нетрадыцыйныя рэлігійныя плыні і псеўдарэлігійныя секты працягваюць «руку дапамогі» людзям, якія трапілі ў складаную жыццёвую сітуацыю, адчуваюць роспач, дэпрэсію, няўпэўненасць у заўтрашнім дні. Напачатку, здараецца, людзей спакушаюць абяцаннямі паставак гуманітарнай дапамогі, паездкамі за мяжу. Затым упор нярэдка робіцца на камерцыйныя мэты, неабходнасць матэрыяльнай падтрымкі арганізацыі, аж да перадачы ёй хатняй маёмасці. Не выпадкова ў сектанцкае асяроддзе спрабуюць уцягнуць людзей з высокімі даходамі, уплывовым грамадскім становішчам. Перавага таксама аддаецца асобам з вышэйшай адукацыяй, прадстаўнікам творчых прафесій, студэнцкай моладзі. Сектанты палююць за таленавітымі маладымі людзьмі, якія з'яўляюцца цветам нацыі, будучыняй краіны.

Па ацэнках прафесара Каралёвай, найбольш спрыяльным «матэрыялам» для псеўдарэлігійнай апрацоўкі з'яўляюцца людзі з ломкай, няўстойлівай псіхікай. Яны лепш за іншых паддаюцца «замбіраванню», якое ажыццяўляецца з дапамогай самых сучасных псіхатэхналогій. Спецыялісты кафедры псіхіятрыі Мінскага медыцынскага інстытута абследавалі вялікую групу людзей ва ўзросце 16—37 гадоў, частку з якіх накіравалі грамадскія арганізацыі з ліку бацькоў, чые дзеці былі ўцягнуты ў псеўдарэлігійныя секты. Характар хваравітых перажыванняў ва ўсіх адлюстроўваў інфармацыю, якую ўнушыў «настаўнік». Члены секты ператвараюцца ў «біяробатаў», якія здольны выконваць толькі волю індуктара. Губляецца цікавасць да вучобы, эмоцыі губляюць сваю яркасць, выразнасць. У васьмі чалавек пасля «культавай апрацоўкі» ўпершыню ў жыцці развіўся востры шызафрэнападобны стан у спалучэнні з вар'яцка-галюцынатарным сіндромам Кандзінскага—Клерамбо, дэпрэсіяй. Два чалавекі скончылі жыццё самагубствам.

Відавочна, што падман, гіпноз, кадзіраванне і іншыя сродкі кантролю за свядомасцю ў мэтах вярбоўкі новых членаў секты і далейшага ўплыву на іх — гэта не што іншае, як парушэнне правоў чалавека самым бессаромным чынам. Ігнаруецца і яго канстытуцыйнае права на свабоду атрымання інфармацыі, без чаго немагчыма зрабіць свабодны выбар. Сапраўды, чаму нават на бляшанцы кансерваў абавязкова пішацца яе змесціва, а чалавеку, запрашаючы яго ў тую ці іншую арганізацыю містычнага толку, не гавораць поўнай праўды аб яе дактрыне? З гэтага пункту гледжання, каб не было «гульні ў адны вароты», напэўна, будзе карыснай наступная інфармацыя, якую карэспандэнт «Звязды» атрымаў з кампетэнтных крыніц.

**Гродзенскі філіял хрысціянскай місіі «Новае жыццё».** Яе прапаведнікі актыўна працуюць сярод моладзі, выкарыстоўваючы падчас набажэнстваў гіпнатычныя метады, правакуючы істэрычны стан у слухачоў, прыгнятаючы іх волю. Па заключэнню спецыялістаў цэнтра сацыяльна-псіхалагічнай дапамогі моладзі і падлеткам, такі стан можа прывесці да расстройства здароўя і псіхікі, страты самакантролю, разбуральных паводзінаў.

Летась у Гродне нелегальна знаходзіліся замежныя місіянеры царквы **Ісуса Хрыста святых апошніх дзён — мармоны.** Яны засяродзілі ўвагу слухачоў на тым, што шляхі выратавання чалавецтва праўдзіва выкладзены толькі ў «Кнізе мармона», прапагандавалі амерыканскі лад жыцця, заходнія каштоўнасці і ідэалы. Па ацэнках спецыялістаў, падобныя «пропаведзі» здольны выклікаць у веруючых непавагу і нават варожасць да прадстаўнікоў іншых рэлігій, негатыўнае стаўленне да сваёй дзяржавы. Здаралася, калі пры звароце місіянераў да прахожых на вуліцы з мэтай заявіць аб існаванні «сапраўднага веравучэння» і запрасіць да сябе на кватэру яны сустракалі рашучы адпор з боку веруючых іншых канфесій, якія вельмі хваравіта ўспрымаюць з'яўленне ў горадзе прапаведнікаў чужародных культаў. Па інфармацыі Савета па справах рэлігій аблвыканкама, на момант выдварэння з Гродна мармоны ўжо завербавалі 11 чалавек, у тым ліку траіх непаўналетніх. Ёсць звесткі, што прыхільнікі гэтай царквы працягваюць упартыя спробы «асваення» Беларусі, магчымы іх новыя візіты і на Гродзеншчыну.

**Вялікае белае брацтва — ЮСМАЛАС (ВББ).** Па заключэнню ўкраінскіх псіхіятраў і псіхолагаў, уваходжанне ў гэту арганізацыю прадугледжвае мадэліраванне і кадзіроўку чалавека ў «зомбі». Пяць гадоў таму кіраўнікамі брацтва Крываногавым і Цвігун, якія цяпер у турме, рабілася спроба арганізацыі масавага спалення веруючых у Кіеве. Іх вучэнне — гэта экзатычная сумесь хрысціянства і ўсходніх рэлігій, містыка і элементы акультных навук. Асновай з'яўляецца ідэя, што Марыя ДЭВІ Хрыстос — сышоўшы на зямлю Бог у жаночым абліччы, які нясе людзям любоў. На справе ў ВББ практыкуюць вымаганне маёмасці і грошай пад маркай ахвяравання, бадзяжніцтва, адрыў сваіх прыхільнікаў ад сем'яў, адрачэнне ад бацькоў. Дзейнасць ВББ у Беларусі забаронена. Тым не менш, групы місіянераў брацтва некалькі разоў спрабавалі арганізаваць у Гродне і раёнах вобласці свае мерапрыемствы.

**Царква аб'яднання (Муна).** Яна выкарыстоўвае каля 200 розных прыкрыццяў — міжрэлігійных і свецкіх структур і праектаў у сферы адукацыі, навукі, эканомікі, вытворчасці, сродкаў масавай інфармацыі, палітыкі, культуры і мастацтва: міжнародныя арганізацыі «Федэрацыя жанчын за мір ва ўсім свеце» з аддзяленнем у Гродне, «Згуртаванне па вывучэнню універсальных прынцыпаў», «Фонд адукацыі», «Акадэмія прафесараў за мір ва ўсім свеце» і інш. На Беларусі царква Муна працуе ў асноўным з пазіцый студэнцкай асацыяцыі «C. A. R.», якая зарэгістравана як грамадская арганізацыя. У Гродна яе місіянеры прыехалі ў лістападзе 1995 года з Мінска, груба парушалі правілы пражывання. Каб прыцягнуць увагу да сваёй дзейнасці, арганізавалі шэраг адукацыйных мерапрыемстваў для студэнтаў, дабрачынных акцый, лекцый па пытаннях маральнасці, вывучэнню Бібліі. Пры гэтым асаблівая ўвага ўдзялялася прапагандзе ідэй і ўстановак Муна. У аснове вучэння ідэя, што Мун — гэта месія, трэці Адам, божая мэта якога — зачаць новую расу «бязгрэшных» людзей. Царква Муна, акрамя ўсяго іншага — гэта магутны прамысловы кангламерат, які займаецца нават узбраеннем і мае шматмільённую армію веруючых у многіх краінах, якія гатовы бясплатна працаваць дзеля збавення ад сваіх грахоў, прыносячы казачныя даходы свайму кіраўніку.

Чалавек спачатку акружаецца цяплом і клопатам, а затым пастулова падводзіцца да думкі, што ўсё добрае зыходзіць выключна ад заснавальніка арганізацыі Сан Мен Муна, які быццам бы спасціг універсальныя прынцыпы жыцця. Далейшая апрацоўка ідзе па выпрабаваных методыках у выглядзе семінараў, лекцый, знаёмства са спецыяльнай літаратурай. Падрыхтаваныя такім чынам людзі накіроўваюцца на семінары ў Мінск, дзе з імі працуюць прафесійныя прапаведнікі з-за мяжы. Па словах некаторых удзельнікаў падобных семінараў, прапануецца такая складаная і насычаная праграма, такое ўздзеянне на свядомасць слухачоў, што ў іх ёсць падставы апасацца за сваю псіхіку.

На 4-м кангрэсе асацыяцыі «C. A. R. P», які прайшоў у Гродне ў лістападзе мінулага года, вырашана стварыць пярвічныя арганізацыі (3 і больш чалавек) ва ўсіх рэгіёнах краіны, пры кожным тэхнікуме і ВНУ. Рост папулярнасці асацыяцыі цалкам магчымы, паколькі з-за дабрачыннай і асветніцкай дзейнасці яна падтрымліваецца многімі кіраўнікамі навучальных устаноў.

Тры гаду таму Гродзенскі аблвыканкам адмовіў у рэгістрацыі мясцовай абшчыне царквы **Апошняга Запавету (Вісарыёна)**, — культ прызнаны таталітарным. Аднак невялікая група прыхільнікаў Вісарыёна працягвае незаконную дзейнасць, спрабуючы прапагандаваць сваё «веравучэнне», у тым ліку праз прэсу. Гэты культ распаўсюджваецца з Расіі і заснаваны на ідэі, што Вісарыён (грамадзянін РФ С. Торап) — сышоўшы на зямлю Ісус Хрыстос. Адзін гродзенец, як і многія іншыя, прадаў сваю кватэру, машыну і накіраваўся ў Краснаярскі край на будаўніцтва так званага «горада сонца». Там паломнікі купляюць хату, а астатнія грошы здаюць у абшчыну, альбо задавальняюцца двух-, трох'яруснымі нарамі ў абшчынных дамах. Гіпнатычныя метады ўздзеяння на свядомасць веруючых асабліва эфектыўныя ў спалучэнні са спецыяльнай дыетай, якая пазбаўлена прадуктаў жывёльнага паходжання, аж да мёду і алею. У выніку парушаецца работа мозгу і прыгнятаецца воля. Усе жаданні зводзяцца да аднаго — ежы, у юнакоў і дзяўчат парушаюцца палавыя функцыі.

Апошнім часам на Гродзеншчыне з'явіліся так званыя **«белыя магі»**. Некаторыя з іх не маюць нават сярэдняй медыцынскай адукацыі. Выкарыстоўваючы незразумелыя патэнты на занятак знахарствам, магі працуюць без кантролю з боку медыцынскіх устаноў і здольныя нанесці шкоду як фізічнаму, так і псіхічнаму стану сваіх пацыентаў. Людзям, якія звяртаюцца да розных магаў, чараўнікоў і біяэнергетыкаў, пагражаюць цяжкія няўрозы, неадчэпны страх, якія вельмі няпроста паддаюцца медыцынскаму лячэнню.

Усё часцей у вобласці назіраюцца **сатанінскія праявы.** У Бераставіцы фізічнай расправай пагражалі некаторым навучэнцам СПТВ-194, якія з'яўляюцца праваслаўнымі веруючымі. Для іх запалохвання, каб адмовіліся ад наведвання рэлігійных мерапрыемстваў, выкарыстоўваліся ананімныя пісьмы, антыхрысціянскія лістоўкі. Два гады таму ў Зэльве былі апаганены святыні праваслаўнай і каталіцкай канфесій, а летась — Каложская царква ў Гродне. У красавіку 1997 года група падлеткаў, выкарыстоўваючы сатанінскія сімвалы, учыніла пагром на могілках у Бярозаўцы Лідскага раёна, падобныя акты вандалізму ўжо неаднойчы адзначаліся і ў абласным цэнтры. А ў Слоніме летам 1995 года пры загадкавых абставінах загінуў адзін з навучэнцаў ПТВ. У кішэні юнака быў блакнот з запісамі сатанінскага характару, дзе адзначана, што менавіта ў гэты дзень ён павінен ахвяраваць сваім жыццём.

... Па некаторых звестках, вышэйпамянёныя місіянеры, пакінуўшы горад над Нёманам, накіраваліся на захад Украіны. Але гэта зусім не азначае, што праблема адпала і можна супакоіцца.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

***НА СВАЕ ВОЧЫ***

# СТВАРАЛЬНІКІ «ЦУДА» НЕ ПАДОБНЫЯ НА ЧАРАЎНІКОЎ

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 211 — 214).**

Для нас, жыхароў СНД, прывыкшых, што звычайна тайваньскія тавары недарагія, на востраве каштуюць даволі дорага, вышэй, чым у іншых краінах. І робіцца гэта наўмысна ў сілу пэўных прычын, разабрацца ў якіх у нас не было часу.

Але тайваньцы не пакутуюць ад гэтага. Высокія цэны кампенсіруюцца высокімі даходамі. Сярэдняя зарплата ў прамысловасці каля 1,5 тысячы дол. ЗША. А галіна гэта ўжо ўступіла вядучыя пазіцыі сферы паслуг, круцяцца велізарныя грошы.

Тайвань — дэмакратыя маладая. Ваеннае становішча тут было адменена крыху больш як 10 гадоў таму. Да гэтага, па сутнасці, дзейнічала аднапартыйная сістэма. Лібералізацыя закранула ўсе сферы палітычнага жыцця. На востраве адбыліся выбары дэпутатаў у парламент, потым мэраў гарадоў, губернатараў і, нарэшце, у 1996 г. прамыя выбары прэзідэнта. Сёння Тайвань адпавядае ўсім прынятым міжнародным дэмакратычным стандартам.

На мой погляд, жыхарам вострава моцна пашанцавала ў тым, што яго ўладам ва ўмовах несвабоды ўдалося стварыць магутны эканамічны фундамент. І ўжо потым на яго базе пачаць дэмакратычныя рэформы. Вынік атрымаўся бліскучы. Тайваньскі эканамічны «цуд» атрымаў новыя ўмовы для развіцця, якое часам набывае парадаксальныя формы.

Агульнавядома, у якой жорсткай манеры, мякка кажучы, спрачаюцца паміж сабой Тайвань і кантынентальны Кітай. Процістаянне даходзіла ледзь не да ваеннага канфлікту. Напал ідэалагічнай барацьбы не зніжаецца. І тым не менш, інвестыцыі Тайваня ў эканоміку КНР ужо перавысілі 30 млрд. долараў ЗША! Палітыка палітыкай, а прыватны сектар не ўпускае магчымасць выкарыстаць такую працоўную сілу сваіх суайчыннікаў з няхай і камуністычнага Кітая, іншыя выгоды, якія там прадастаўляюцца для інвестараў. Урад Тайваня гэту дзейнасць сваіх бізнесменаў, вядома, не заахвочвае, час ад часу папярэджвае іх не захапляцца ўмацаваннем эканомікі КНР, але забараніць рабіць гэта не мае права. Дэмакратыя — рэч часта нязручная для ўладаў.

Адносіны паміж Тайванем і КНР — тэма асаблівай і працяглай размовы. Але яе нельга і абысці. Амаль чатыры дзесяцігоддзі паміж абодвума бакамі не было аніякіх кантактаў. І вось у канцы 80-х гадоў тайваньцам было дазволена наведваць мацерыковы Кітай.

Гэта быў, без перабольшання, гістарычны крок. Бо ўпершыню пасля 1949 г. у тайваньцаў, многія з якіх мелі сваякоў у КНР, з'явілася магчымасць прыехаць да іх. Такім чынам пачалі развівацца сувязі, падкрэслім, на неафіцыйным узроўні. Паралельна стала наладжвацца эканамічнае супрацоўніцтва. Праўда, вялося яно і зараз вядзецца ў асноўным праз іншыя краіны ці праз Ганконг.

Але разам з узаемавыгаднай дзейнасцю, наладжваннем руху насустрач адзін аднаму паступова пачалі ўзнікаць розныя праблемы, якія патрабавалі сустрэчы абодвух бакоў. Спектр наспелых пытанняў быў даволі шырокі — ад фармальнасцяў пры перасячэнні мяжы, выкарыстанні інвестыцый, рэалізацыі сумесных праектаў, арганізацыі рыбалоўства да барацьбы з нелегальнай эміграцыяй з КНР на Тайвань. Часам імкненне ўсімі праўдамі і няпраўдамі дасягнуць жаданай тайваньскай зямлі набывала вельмі небяспечныя формы. Быў перыяд, калі ледзь не кожны месяц з КНР уганялі самалёт на Тайвань. Дарэчы, апошні падобны ўгон адбыўся ў канцы кастрычніка г. г.

Таму само жыццё падштурхоўвала і Тайвань, і КНР да выпрацоўкі механізмаў вырашэння ўсё ўзрастаючай колькасці праблем. І натуральным працягам развіцця гэтых надзвычай складаных двухбаковых адносінаў стала стварэнне грамадскіх па форме, а па сутнасці паўафіцыйных арганізацый, якія заняліся ўрэгуляваннем і ўпарадкаваннем комплексу першачарговых пытанняў. На Тайвані ім стаў Фонд развіцця абменаў, у КНР — Асацыяцыя па сувязях праз Тайваньскі праліў.

І КНР і Тайвань жадаюць мірнага аб'яднання ў адну краіну, але кожны вылучае свае ўмовы, якія пакуль непрымальныя для процілеглага боку. Аднак час ідзе. Эпахальныя перамены адбываюцца ў кантынентальным Кітаі, гэтак жа хутка мяняецца жыццё на востраве. І хто ведае, можа ў наступным стагоддзі кітайцы будуць жыць у адной вялікай дзяржаве.

У апошнія гады значна ўзраслі культурныя абмены Тайваня з іншымі краінамі. У Тайбэі з поспехам прайшлі выстаўкі твораў з Луўра, іншых славутых музеяў Еўропы і Амерыкі. У час нашага знаходжання дэманстраваліся палотны Пабло Пікасо ў адным з памяшканняў нацыянальнага мастацкага музея. Ён, у сваю чаргу, час ад часу накіроўвае па абмену ў розныя куткі свету экспазіцыі кітайскіх майстроў. А ў музеі, між іншым, захоўваецца самая багатая ў свеце калекцыя твораў кітайскага мастацтва, якую ў 1949 годзе вывезлі на востраў прыхільнікі Чан Кайшы.

Паступова развіваецца культурнае, гуманітарнае і эканамічнае супрацоўніцтва з Беларуссю. Яго «рухавіком», безумоўна, з'яўляецца фонд «ТайМінь» — міжнародная няўрадавая арганізацыя. Хутка ёй спаўняецца тры гады. За гэты кароткі тэрмін фонд здолеў зрабіць шмат карысных спраў дзеля ўсталявання плённых кантактаў, наладжвання абменаў і ўзаемаразумення паміж грамадскасцю Мінска і Тайбэя.

Там я ўпершыню пачуў пра, скажам так, «беларускі» след у гісторыі Тайваня. На востраве нямала людзей сцвярджаюць, што Фаіна Вахрава, нявестка «першай сям'і Кітая», жонка, а потым і ўдава прэзідэнта Цзян Цзінго — беларуска па паходжанню. Хаця нарадзілася Фаіна Іпацьеўна Вахрава ў 1916 г. на Урале. У 1932 г. яна, рабочая Уральскага завода цяжкага машынабудавання, пазнаёмілася з маладым інтэлігентным кітайцам. Мікалай (так ён назваўся) прыехаў у СССР вучыцца камунізму. Ён закахаўся ў жвавую абаяльную дзяўчыну, і яны неўзабаве пажаніліся.

Раптоўна ў іх шчаслівае жыццё ўварвалася вялікая палітыка, і жыццё маладых, у якіх нарадзілася дзіця, ператварылася ў пекла. Мікалай, ён жа Цзян Цзінго, быў сынам Чан Кайшы, і на ўласнай скуры зведаў усе «прывабнасці» сталінскага рэжыму. Пасля пагаршэння адносінаў КПСС з Гаміньданам яго звольнілі з работы, выключылі з кандыдатаў у партыю, не адпускалі на радзіму. І толькі ў 1937 г. яму дазволілі выехаць у Кітай. Туды ж накіравалася і Фаіна.

Яна апынулася ў эпіцэнтры бурных падзей. Потым разам з мужам пераехала на Тайвань, шмат дапамагала яму ў палітычных справах, адначасова вяла дом, выхоўвала дзяцей. Пасля смерці ў 1988 г. Цзян Цзінго Фаіна, ці, як завуць яе тайваньцы, Цзан Фан-лян, замкнулася ў сабе, жыла абасоблена, мала з кім сустракалася, не прымала гасцей.

За ўсе гэтыя гады яна ні разу не была на радзіме. Пасля развалу СССР у расійскіх СМІ пачалі з'яўляцца публікацыі пра дзіўны лёс Ф. Вахравай. Відаць, цікавасць да перамен у СССР і суайчыннікаў была настолькі вялікая, што яна ў чэрвені 1992 года прыняла дэлегацыю Мінскага гарвыканкама. Госці падарылі ёй беларускі дзяржаўны сцяг, матрошку і бохан чорнага хлеба.

Гэта сустрэча стала сапраўднай сенсацыяй (на Тайвані Ф. Вахрава карыстаецца велізарнай павагай), і пасля яе сталі гаварыць, што Фаіна беларуска. Ці так гэта — цяжка высветліць без размовы з удавой сына Чан Кайшы. Можа і сапраўды яна мае беларускае паходжанне, бо нямала нашых суайчыннікаў жыве на Урале. Але хутчэй за ўсё гэта легенда.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# 36,6°

## ВОСЕНЬСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

# ЛІСТАПАД

**4/22. Казанская.** «Хто на Казанскую жаніхаецца, той не пакаецца». У праваслаўным царкоўным календары — святкаванне абраза Казанскай Божай Маці (у памяць выратавання Масквы і Расіі ад палякаў у 1612 годзе).

Гэта быў «смутны час» для Расіі, калі Польскае каралеўства ў саюзе з Вялікім княствам Літоўскім пастаўляла на царскі прастол «ілжэдзмітрыяў» і нават завалодала сталіцай. Апалчэнцам Дзмітрыя Пажарскага быў прысланы з Казані цудатворны абраз Прасвятой Багародзіцы, які, па прадбачанню святога Арсенія, павінен быў заступіцца за рускае войска і дапамагчы вызваліць Маскву.

Беларускі народны каляндар нічога не згадвае пра гісторыю. За прысвяткамі замацаваліся цікавыя народныя назіранні. Да Казанскай — не зіма, а пасля — не восень; зранку дождж, з вечара — снег. На Казанскую дождж пойдзе — зіму прывядзе. Выязджай на Казанскую на калёсах, але палазы з сабой прыхапі; «Што Казанская пакажа, тое й зіма скажа», «На Казанскую пойдзе дождж»; «Да Казанскай падымаюць лён».

**8/26. Зміцер (Змітрок, Дзмітры)** — «хітры» дзень, канец надзеі выйсці замуж у гэтым годзе. Адлюстраваны ў прымаўках: «Да Дзмітра — дзеўка хітра, а па Дзмітры — мужчына хітры», «Зміцер зямлю выцер, на груды пабіў, каб ніхто не хадзіў», «Да Змітра пасуць, а па Змітру пільнуюць», «Святы Зміцер стагі злічаець», а таксама ў народных песнях:

*Святы Зміцер — ён на ўсіх хіцер:*
*Салады салодзіць, піва робіць,*
*Сыноў жэніць, дачок выдаець...*
(Дзісенскі павет)

*Святы Змітра —*
*Ён багаты:*
*Сыноў жэніць,*
*Дачок аддаець,*
*Па сто рублей*
*Пасаг даець,*
*А сынам па канёчку...*
(Міёрскі раён)

На Змітра не пралі, не ткалі і ў полі не працавалі. У Гомельскім раёне гавораць: «Процiў Дзмітрыя вечарам не прадуць, не матаюць — Дзмітры хітры. А назаўтра вышываюць». Змітраў дзень параўноўваюць у прыродных прыметах з Вялікаднем і іншымі святамі. «Змітрок па снегу — і Вялікдзень па снегу, Змітрок па голу — і Вялікдзень таксама», «Калі Змітра на снезе, то і Каляды на снезе — вясна позняя».

А праваслаўны каляндар адзначае памяць велікамучаніка Дзмітрыя Салунскага, што быў пакараны каля 306 года імператарам-язычнікам Максіміліянам, а таксама Дзмітрыя Басарбоўскага (1685) і інш.

**9/27.** *Тодар (Тадор).* Прысвятак напамінаў, што ўраджай сабраны і ўпарадкаваны. «На Тадора поўна камора».

**Дзяды**. Дарэвалюцыйныя этнографы адзначалі, што ў Ашмянскім павеце першыя Дзяды ў чацвер, другія — у суботу, трэція — у нядзелю, чацвёртыя — у суботу перад Загавінамі, у Гомельскім павеце спраўлялі Змітраўкі, Дзяды 26 кастрычніка, а Бабы — 27-га.

**10/28. Параскі (Параскева Пяценка, Параскеўя Пятніца, Параскімка, Параскім'я, Параскоўя, Параскі Асеннія)** — дзень забароны прадзення і ткання; заступніца жанчын і сям'і, апякунка жаночага рукадзелля. Існавалі павер'і: хто будзе прасці, то з-пад печкі вылезе Пятніца і пакарае; яна ў выглядзе старой бабы ходзіць па вёсках і строга глядзіць, каб ніхто не праў кудзелю ў пятніцу. Царква да гэтага дня прымеркавала святкаванне святой Параскевы Пятніцы — велікамучаніцы, якая жыла ў III ст. у Іконіі. На Драгічыншчыне дзяўчаты яшчэ не гублялі надзеі на замужжа, таму гаварылі: «Пяцёнка, мая мацёнка, памажы хоч ты, каб мне замуж пайты».

Вось як раней тлумачылі святары прычыну, чаму ў пятніцу не аруць і не прадуць: «Калі татары прымушалі і рускіх князёў кланяцца свайму Богу, то маглі яны загадаць, каб народ шанаваў і святкаваў іх пятніцу. Загаду гэтага народ, вядома, не слухаў і, толькі ўбачыўшы ў пятніцу татарына, кідаў сваю работу. А паколькі груваcткую саху з канём і грэбень са стойнам цяжка было адразу схаваць, то і вырашылі па пятніцах не араць і не праці. Калі ж народ дазнаўся, што ў святцах ёсць свята Параскевы, якую звалі Пятніцай, тады ён пятніцы і святую Параскеву аб'яднаў у адно паняцце, а жаночае ўяўленне зрабіла яе апякункаю прадзіва. Яны і цяпер расказваюць, што «ў якомся манастырэ ікона святой Пяценкі бывае ўся ў пылу, як бабы мычуць мычкі і прадуць па пятніцах». (Літвіны-беларусы Чарнігаўскай губ.).

Папулярнасць Параскевы Пятніцы праяўляецца не толькі ў шматлікіх легендах, але і ў народным мастацтве (іканапісе, вышыўцы, ткацтве). Адчуваецца, што за яе вобразам стаіць ранейшы язычніцкі культ.

Акадэмік Б. Рыбакоў лічыць, што Макаша з'яўляецца «маці ўраджаю», «багіняй жыццёвага дабрабыту і дастатку». «На працягу сярэдневякоўя адбывалася адцясненне Макашы хрысціянскай Багародзіцай і замена ёю старажытнай язычніцкай багіні. Культ Макашы ператварыўся ў культ хрысціянскай Параскевы Пятніцы».

Існуе нямала абразоў, выкананых мясцовымі майстрамі, у тым ліку вышывальшчыцамі. Адзін з такіх твораў быў выкананы рознакаляровымі ніткамі М. Паскрэбкай (1868 г. н.), што захаваўся ў царкве на Вайсковых могілках у Мінску. Ручнікі з вобразам жаночай заступніцы вышывалі дзяўчаты, жанчыны і бабулі з мэтай абароны сям'і, хаты, маладосці і старасці жаночай. Посцілкі і ручнікі, фартухі і сарочкі служылі абярэгамі, вышываліся на абразах, ахвярных крыжах.

Вось як распавядае аб сваёй вышыўцы Г. Ульяновіч (1902 г.н.) з Ваўкавыскага раёна: «Перад самым вяселлем я захварэла. Спужалася, як буду хворай вянчацца? Бабка Аксіння параіла звярнуцца з просьбаю да Параскевы Пятніцы. Я і вышыла гэты ручнік. Верхні радок вянцоў — гэта благаслаўленне Параскевы Пятніцы, другі радок — царкоўныя вянцы, благаславенне святара. А каб была моцная сям'я, трэба яшчэ блаславенне маці і бацькі. Таму ў ніжнім радзе і вышыта іх блаславенне — каравай ці бохан хлеба».

**Алесь ЛОЗКА.**

# Лепшы сябар добрай ночы — ваш ложак

***У ложку мы праводзім трэць жыцця. Сонны час можа на ўсе сто аднавіць арганізм, які стаміўся ад дзённых дзеянняў, а можа канчаткова знясіліць яго. Што ж патрэбна для добрага сну, які аднаўляе арганізм? Праветраны пакой, якасная, не надта цёплая пасцельная бялізна. Але самае галоўнае — добры ложак.***

Кіраўнік лабараторыі трывожнага сну французскага універсітэта Манпелье прафесар Жак Тушон сцвярджае, што правільна падабраныя ложак і пасцельная бялізна ў асноўным вырашаюць праблемы з засынаннем і трывожным сном, дазваляюць прадоўжыць сон амаль на гадзіну. Дарэчы, неспакойна спяць, часта прачынаюцца ні многа ні мала 75 працэнтаў людзей. Паводле даных прафесара Тушона, пры прабуджэнні боль у спіне адчувае кожны другі француз. І гэта зусім не старыя. Дваццаціпяцігадовыя часцей пакутуюць ад боляў у спіне, чым шасцідзесяцігадовыя. А значыцца, паднесці сабе ў падарунак якасны ложак ніколі не рана і не позна.

### Спіна скажа вам дзякуй

Пазваночнік увесь дзень цягае наша цела. Груз салідны, ды і майстэрству нагружаць пазваночнік мы развучыліся. Прырода разлічвала, што мы будзем актыўна рухацца, і зрабіла адпаведны пазваночнік. А цывілізацыя «ашчаслівіла» нас сядзячым ладам жыцця, які падвяргае пазваночнік яшчэ большаму перанапружванню, чым жорсткія работадаўцы — волжскіх бурлакоў. Так што, дабраўшыся да ложка, пазваночнік прагне расслаблення пасля знясільваючай гіпадынаміі. Менавіта ў час сну пазванкі атрымліваюць найбольшую нагрузку. Тэарэтычна. На справе ўсё не так.

Спецыялісты рэкамендуюць забыць міф пра карысны для здароўя цвёрды матрац. Пазваночнік на такім матрацы (ці, таго горш — проста падлозе) з жахам выпростваўся, але сінякі і адчуванне прайшоўшай па целе парадам цяжкай артылерыі былі горкім дакорам падобнаму метаду лячэння. І гэта не самае страшнае. У гарызантальным становішчы на пазваночнік ціснуць 10 працэнтаў нашай вагі. Калі выступаючыя ўчасткі цела абапіраюцца на цвёрдую паверхню, пры працяглым «лячэнні» магчыма парушэнне кровазвароту і адміранне тканак на ўчастках, якія найбольш падвяргаюцца ціску.

Калі націск на які-небудзь участак цела перавышае норму, якую арганізм сабе ўстанавіў, дык у спінны мозг пасылаецца сігнал абурэння. Мозг абуджае рухальныя рэфлексы, і чалавек пераварочваецца, разгружаючы прыціснуты ўчастак. Але гэта зусім не азначае, што трэба спаць, як вядомая прынцэса на дзесятку пярын. Вельмі мяккая паверхня не трымае пазваночнік. Спіне патрэбна залатая сярэдзіна — дастатковая цвёрдасць для добрай падтрымкі ў спалучэнні з мяккасцю для камфорту.

Вытворцы дарагіх ложкаў і матрацаў пайшлі далей: яны вырабляюць матрацы з улікам зон большага і меншага ціску — узмацняюць падтрымку ў цэнтры спіны і робяць менш пругкай паверхню на ўзроўні галавы, плячэй і ног.

### Шчаслівы сон удваіх

Такім лічыцца сон, у час якога партнёры незалежныя адзін ад аднаго. Незалежнасць ствараюць шырыня ложка і будова матраца.

Што датычыцца шырыні, то чым больш, тым лепш: мінімальна прыдатным лічыцца памер 1,60 м х 2 м.

Матрац на вашай палавіне павінен захоўваць форму, што б ні рабіў сусед па ложку, хоць скакаў. Жанчына не павінна адчуваць розніцу ў вазе з мужчынам. Вытворцы ложкаў прапануюць цэльныя матрасы з бакамі рознай цвёрдасці і два матрацы з рознай пругкасцю, сшытыя разам.

### Выбірайце спінай

Рэч, з якой збіраюцца жыць разам не менш як 10 гадоў (а статыстыка сведчыць, што ложак набываецца ў сярэднім раз у 10 гадоў), не купляюць на выгляд. Тым больш што ад гэтай рэчы залежыць, з якой нагі мы ўстанем. Адзіны спосаб ацаніць цвёрдасць ложка — адчуць яго ўласнай спінай, г. зн. паляжаць і пакруціцца. Калі купляецца ложак для дваіх, расцягнуцца на ёй павінны абодва. Калі прадавец ставіцца да вашай ініцыятывы з асуджэннем — ідзіце прэч з гэтага мэблевага салона. Тут працуюць непрафесіяналы.

### Падушка — не толькі для слёз

Падушка ў многім вызначае якасць сну. Калі ўзровень цвёрдасці і форма падабраны няправільна, як і ў выпадку з матрацам, чалавек у сне пастаянна круціцца, часта прачынаецца. Падушка падтрымлівае шыйныя пазванкі і дазваляе мышцам шыі расслабіцца. Ад таго, як будзе размешчана на падушцы вага галавы (а гэта каля 7 кг), залежыць і прыток крыві да галавы. Калі цыркуляцыя парушаецца, мы пачынаем круціцца, «выпраўляць» падушачныя хібы.

Дык якую ж падушку выбраць: з пер'я ці сінтэтычную, прамавугольную ці квадратную? Абсалютных правілаў няма. Галоўнае — каб падушка была якасная і адпавядала пабудове галавы і шыі.

Ідэальна спаць на падушцы не вельмі плоскай і не вельмі пышнай. У час сну мы паварочваем галаву ў сярэднім 50 разоў, таму добрая падушка павінна быць «дынамічнай».

Лепш за іншых адаптуюцца да размяшчэння галавы, вельмі добра падтрымліваюць патыліцу, не дэфармуюцца падушкі з сінтэтычным напаўняльнікам.

### Формы вырашаюць усё

Добра прылягае да патыліцы падушка-падкова. Яна ідэальная для працяглых падарожжаў у сядзячым стане. Вельмі малы працэнт людзей практычна не мяняе становішча цела на працягу ночы. Самы лепшы адпачынак галавы ў гэтым выпадку — падушка ў форме бамбука. Модульная падушка складаецца з дзвюх частак. Адна частка цвёрдая і нізкая, другая — больш мяккая і высокая. Для ўсіх, хто сапіць на баку ці на спіне, цудоўна падыходзіць падушка з ячэйкамі. Яе форма падобная на латок, у якім прадаюць яйкі.

Спецыялісты лічаць, што лепш за іншыя ахоплівае патыліцу і шыю прамавугльная падушка. А вось падушак у выглядзе валіка раяць пазбягаць, яны дрэнныя для шыі і спіны.

### Якая коўдра бліжэй да цела

Самымі дарагімі і прэстыжнымі з'яўляюцца коўдры з натуральнай набіўкай (з пухам). Такія коўдры больш лёгкія, мяккія і цёплыя, што асабліва важна пры нашых маразах і ніколі не падрыхтаваных да іх камунальных службаў. Натуральныя коўдры трэба купляць толькі ў вядомых вытворцаў, што выключае рызыку набыць у дадатак да коўдры кляшчоў ці іншых паразітаў. Коўдры трэба рэгулярна вытрасаць і праветрываць.

Да сінтэтыкі адносіны традыцыйна стрыманыя. Яна дрэнна прапускае паветра. Так што неаспрэчныя спажывецкія вартасці — таннасць і магчымасць мыць у пральнай машыне — блякнуць, калі пад сінтэтычнай коўдрай адчуеш сябе, як у тропіках. Вытворцы змагаюцца за наша нармальнае потавыдзяленне, і ў апошні час з'явіліся сінтэтычныя коўдры з дабаўленнем пуху, што павялічвае «прапускную здольнасць» паветра.

Тым, хто пакутуе ад алергіі, урачы рэкамендуюць карыстацца толькі сінтэтычнымі коўдрамі, а таму ім даводзілася мужна пацець за здароўе. Цяпер пацець не трэба. Нядаўна пачалі вырабляць натуральныя коўдры з антыалергічнай апрацоўкай.

***«АиФ-Здоровье».***

# ПРЭЗЕРВАТЫВЫ З ХЛЕБАМ ПРАДАВАЦЦА НЕ ПАВІННЫ.

## АЛЕ ЯНЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ У ПРОДАЖЫ

У рэдакцыю патэлефанавала наша чытачка-пенсіянерка з Гомеля Марыя Мікалаеўна Іванкова, якая выказала сваё абурэнне тым, як у многіх магазінах горада рэалізуюць прэзерватывы.

*«У свой магазін я больш не пайду, бо там гэтыя прэзерватывы ляжаць літаральна побач з хлебам. Гэта ж такая непавага, і нам, састарэлым людзям, даводзіцца на гэта глядзець. Мы з іншай эпохі, для нас прадаўцы павінны хутчэй карвалол ці валідол трымаць, каб не страціць прытомнасць ад гэтых цэн, а тут яшчэ прэзерватывы. Скажыце, хто іх будзе купляць у чарзе за хлебам, малаком. Пытаюся ў дзяўчат, ці бяруць іх. Не, гавораць, ніхто не купляе. Дык навошта ўсё гэта тады? Няхай бы прэзерватывы прадавалі вадзіцелі таксі, нават тралейбусаў — каму яны патрэбны. Ці няхай бы імі распаўсюджвальнікі газет гандлявалі. Але не так жа — побач з хлебам...»*

Праблема гэта сапраўды сур'ёзная. Але, каб не блытаць адно з другім, напэўна, трэба напачатку гаварыць увогуле аб стаўленні грамадства да яе, а ўжо потым — аб прэзерватывах у канкрэтным магазіне. Напачатку прывяду словы (не па дакладнасці выказвання, а па сэнсу), якія мне аднойчы сказаў кіраўнік Мінскага сексалагічнага цэнтра Дзмітрый Капусцін. Было гэта падчас чарговай забароны продажу ў людных месцах прадукцыі эратычнага накірунку. «Разумееш, гэтыя часопісы — як азбука. На жаль, большасць людзей не валодае нават азамі палавога жыцця — так яны былі выхаваны. Гэта дрэнна, што вучацца яны ў многім менавіта па іх, але, калі забараніць і часопісы, іншую прадукцыю таго ж накірунку, — вучыцца ім увогуле не будзе па чым...»

Мне давялося пабываць у Англіі, Польшчы, Чэхіі. Ведаеце, там гэтай праблемы не існуе. Эратычныя часопісы, відэакасеты прадаюцца ў любым газетным кіёску, нават калі ён размешчаны ў цэнтры Прагі ці Лондана. У Чэхіі, напрыклад, па тэлебачанні (прычым не па кабельнаму каналу) паказваюць стужкі, ад якіх састарэлыя людзі ў нас сапраўды не ведалі б куды падзецца. Але самае галоўнае — ніхто не робіць з гэтага праблему. Як сказала нам маладая чэшка-перакладчыца: «Калі каму патрэбны такі фільм — ён пагледзіць яго ці пойдзе і купіць касету, гэта яго асабістая праблема». Іншымі словамі, там грамадства ставіцца да такіх рэчаў больш цывілізавана. Я не думаю, што маньякаў у іх больш, чым у нас, прычым толькі таму, што за мяжой эротыка ўвесь час трапляецца на вочы. З іншага боку, няма чаго і сумнявацца, што калі там падлетак папросіць яму нешта прадаць (касету, часопіс), у яго запытаюць ягоны ўзрост і, вядома ж, адмовяць, калі ён не пройдзе пэўны ўзроставы цэнз.

Цяпер больш канкрэтна па сутнасці пытання чытачкі. З пачатку года ў асартыменце гандлёвых прадпрыемстваў усіх формаў уласнасці ў абавязковым парадку з'явіліся прэзерватывы. Пайсці на такі крок кіраўнікоў гандлёвых кропак прымушае загад, які быў прыняты ўслед за галіновай праграмай, якая, у сваю чаргу, цалкам абапіраецца на дзяржаўную праграму па барацьбе са СНІДам і хваробамі, што перадаюцца палавым шляхам. Усе чытаюць газеты і ведаюць, колькі ў Беларусі людзей ужо маюць ВІЧ-інфекцыю. Пра венерычныя захворванні і гаварыць не даводзіцца. Чаму так атрымліваецца? Глядзі пачатак размовы — з-за адсутнасці нават азоў палавога жыцця. Калі і можна тут нешта змяніць, дык толькі вучобай, напамінам. Гэта не вырашыць адным махам праблему ўвогуле, але можа сёння ці заўтра выратуе не толькі здароўе, але і жыццё камусьці з нас. Састарэлых людзей зразумець можна, маўляў, у наш час пра «гэта» ўслых не гаварылі. Але тады не было і СНІДу...

У маім магазіне, дарэчы, сітуацыя падобная: як падыдзеш да касы, першае, што лезе ў вочы, — аголеныя дзяўчаты на ўпакоўках прэзерватываў. Відаць, прадаўцы самі крыху камплексуюць, бо самыя «цікавыя месцы» па-мастацку заклеілі цэннікамі. Як паведамілі ў аддзеле гандлю нехарчовымі таварамі Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама, толькі ў сталіцы каля 2,5 тысячы магазінаў. Праверыць кожны, як вы разумееце, складана. Канешне, прэзерватывы не павінны ляжаць побач з хлебам. Але яны павінны быць у магазінах. Мо проста папрасіць прадаўца перакласці іх у іншае месца?!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносін — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.989. Індэкс 63850.
Зак. № 6401.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12